

*Жыве Беларусь!*

# БЕЛАРУС

Address: P. O. Box 3225 Farmingdale, NY 11735
BIELARUS / Belarusan newspaper in Free World
Published by the Belarusan American Ass'n Inc. ISSN 1054-9455
№ 507 Красавік 2005 г.
Год выданьня 55

## Імпэрская традыцыя

Сёлета 9-травеня Масква рыхтуецца адзначыць 60-годзьдзе заканчэньня Другое Сусьветнае вайны. Заплянаванае грандыёзнае адзначэньне, на ўдзел у якім запрошаны й прэзыдэнт ЗША Джордж Буш. Запрашэньне гэтае было прынятае, хоць, бясспрэчна, у прысутнасьці кіраўніка Амэрыкі на гэтым імпэрскім расейскім відовішчы няма ніякае патрэбы. Маскоўскія звычаі й традыцыі нам разумець цяжка, аднак на мінулую вялікую вайну думку зь беларускага гледзішча выказаць трэба.

Першае - тэрміналёгія. Для беларускае нацыі вайна 1939-1945 гадоў ніякая не "айчынная", а Другая Сусьветная. Яна пачалася ў згодзе й паразуменьні нацыстоўскай Нямеччынай з бальшавіцкім Савецкім Саюзам - тагачаснай Расейскай імпэрыяй.

У выніку вайны беларуская тэрыторыя была зноў разрэзаная на часткі: Беласточчына прыдзеленая да Польшчы, а Вільня і Віленшчына, старыя беларускія землі й гістарычная сталіца Старабеларускай дзяржавы - Вялікага Княства Літоўскага, падараваныя летувісам. Нацыянальнае беларускае жыцьцё ў Вільні было вынішчана цалкам.

Дэмаграфічныя страты беларускага народу, паводле абліченьняў беларускага дасьледніка А. Багровіча (В. Тумаш), склалі ў выніку Другое Сусьветнае вайны ўлучна з дэмаграфічным дэфіцытам панад 6 мільёнаў чалавек.

У паваенны час было разгромленае цалкам нацыянальнае беларускае адраджэньне, а заменены нацыянальны элемэнт быў этнаграфічным матар'ялам без гістарычнага зьместу.

Савецкая прапагандовая машына патрапіла штучна спалучыць нацыянальнае адраджэньне, нацыянальную дзейнасьць беларусаў зь нямецкай нацыстоўскай палітыкай дзеля вынішчэньня рэштаў нацыянальнага адраджэньня, аб'яўляючы аго "фашызмам і саўдзелам у злачынствах". Беларуская нацыя ў паваенны час засталася без нацыянальнага праводу і нацыянальнай эліты, што дало Саветам магчымасьць хутка русыфікаваць яе, саветызаваць, ператварыць з нацыі ў насельніцтва.

У пэрыядзе па Другой Сусьветнай вайне эканоміка Беларусі была адбудаваная выключна ў адным кірунку - быць прыдаткам, зборачным цэхам для імпэрскае эканомікі.

Псэўдагонар за "партызанскую рэспубліку", "народных мсьціўцаў" і г. д. хавае за сабою вялізарную трагедыю народу, на зямлі якога біліся дзьве варожыя арманды, і які вынішчаўся ўсімі бакамі ўзброенага канфлікту. Так званая "партызанская вайна" ў Беларусі фактычна ў шмат якіх мясьцінах Беларусі ператварылася ў грамадзянскую вайну, несучы нечуваныя жахі й сьмерць для некамбатантаў і мірнага насельніцтва.

Напампоўваньне сёнешняй Расеяй, што знаходзіцца ў складаным палітычным і эканамічным становішчы, гонару за перамогу і ўсхваленьня часоў сталінізму служыць ускоснаму апраўданьню палітыкі прэзыдэнта Пуціна. У гэтым Пуцін шмат чаму, як бачым, навучыўся ў дыктатара Лукашэнкі, які рэгулярна карыстае не з адной нават, а зь некалькіх датаў "перамогі", каб спляжыць апанэнтаў і ўзьвялічыць свае дасягненьні.

Беларускаму народу "перамога" прынесла толькі новыя рэпрэсі па абвінавачаньнях у "калябаранцтве" ўсіх, хто хацеў падтрымаць насельніцтва, кінутае на волю лёсу ўцёкшымі бальшавікамі, і хто ў жудасных і рэпрэсыўных умовах нямецкай акупацыі будаваў падставы для нацыянальнага жыцьця й аднаўленьня незалежнасьці. Беларускую моладзь, зьмабілізаваную ў савецкае войска, у імя "перамогі" кідалі як ненадзейных "былых жыхароў часова акупаваных тэрыторыяў" пад агонь на верную пагібель. "Перамога" прынесла калектывізацыю і масавыя вывазкі беларусаў на ўсход, выезд моладзі ў Карэлію, Данбас, Комі ды іншыя месцы, дзе людзі мусілі ратавацца ад калгаснай нэндзы й галечы. "Перамога" прынесла завяршэньне вынішчэньня нацыянальнай эліты, узмацненьне русыфікацыі.

Беларускі Дзень Перамогі яшчэ наперадзе. Ён наступіць, калі над вызваленай ад тыраніі Бацькаўшчынай залунае бел-чырвона-белы сьцяг, калі загучыць свабоднае беларускае слова.

## Дэлегацыя БАЗА ў Вашынгтоне

Прадстаўнікі Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня – сп-чня Алеся Кіпель, др. Юрка Кіпель і др. Вітаўт Кіпель – правялі 3-4 сакавіка гутаркі ў Вашынгтоне з кангрэсмэнамі Фрэнкам Палонэ, Рошам Голтам і Крыстафорам Сьмітам (усе ад штату Нью-Джэрзі), а таксама наведалі офісы нью джэрзійскіх сэнатараў Фрэнка Ляўтэнбэрга й Джона Карзайна. Галоўнай тэмай гутарак была інфармацыя пра беларускую грамаду ў ЗША, становішча ў Беларусі ды справу ўжыцьцяўленьня прынятага Кангрэсам ЗША Акту аб дэмакратыі ў Беларусі.

Беларуска-амэрыканскія наведнікі Кангрэсу ўзялі таксама ўдзел у канфэрэнцыі, наладжанай у Вашынгтоне Злучаным Балтыйскім Камітэтам у Камісіі па супрацоўніцтву ў Эўропе. На канфэрэнцыі цэлая сэсія была прысьвечаная абмеркаваньню палітычнага стану ў Беларусі.

***Паводле бюлетэню "Circulation News"***

## Сьвяткаваньне Дня Волі ў Нью Брансвіку, Нью Джэрзі

У вялікай залі гатэлю Гаят Рыджэнсі ў Нью Брансвіку 20 сакавіка адбылася сумесная сьвяточная імпрэза аддзелаў Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (БАЗА) у Нью Ёрку і Нью Джэрзі, прысьвечаная 87-м угодкам абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. Традыцыйна сьвяткаваньні Акту 25 Сакавіка — Дня Волі праходзілі па чарзе ў Нью Ёрку і Нью Джэрзі й ладзіліся супольна двума аддзеламі, і цяпер гэтая традыцыя ўзноўленая. Імпрэзе папярэднічала набажэнства ў Царкве Божае Маці Жыровіцкай у Гайленд Парку.

Напачатку імпрэзы, якую вёў старшыня аддзелу БАЗА ў Нью Джэрзі сп. Юрка Азарка, прагучэў гімн ЗША ў выкананьні спчн. Вольгі Казак. Сп. Ю Азарка выступіў з прывітаньнем ад імя аддзелу Нью Джэрзі. Затым ён прачытаў віншаваньні дасланыя ад дзейнага губэрнатара штату Нью Джэрзі сп. Рычарда Коўды і ад сэнатараў і кангрэсмэнаў штату. Затым з прывітаньнем ад аддзелу ў Нью Ёрку выступіў старшыня гэтага аддзелу сп. Віталь Зайка. Таксама прагучэлі дасланыя прывітаньні ад Старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі спн. Івонкі Сурвіллы, ад Беларускага Кангрэсовага Камітэту ў Амэрыцы, ад Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі, ад старшыні арганізацыі "Беларуская Пэрспэктыва" спн. Валянціны Трыгубовіч, ад Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Народнай Царквы Сусьветнага Амэрыканскага Патрыярхату, ад Таварыства Беларускай Школы ды шэрагу іншых.

Затым з рэфэратам "Ідэалы БНР у кантэксьце часу" выступіў старшыня Беларускага Народнага Фронту сп. Зянон Пазьняк. Ён падкрэсьліў важнасьць сьвяткуемай даты й вырашальнае значаньне беларускай мовы як фактару ўсьведамленьня нацыянальнай саматоеснасьці, і як асновы й сродку нацыянальнай культуры безь якой немагчыма суверэнная незалежная дзяржава. Свае тэзы прамоўца ілюстраваў прыкладамі з гістарычнага досьведу народаў Усходняй Эўропы. Сп. Пазьняк таксама спыніўся на дзейнасьці Рады БНР як арганізацыі, што ёсьць творцай і правапераемнікам Акту 25 Сакавіка 1918 году.

На прыканцы сьвяточнай акадэміі сп. Ю. Азарка прачытаў праект Рэзалюцыі сьвяточнага сходу, які быў аднадушна прыняты. Сп. Вячка Станкевіч выступіў з прапановаю падпісацца пад зваротамі да сэнатараў і кангрэсмэнаў у справе падтрымкі прынятага нядаўна Акту аб Дэмакратыі ў Беларусі.




***Старшыня аддзелу БАЗА ў Нью Ёрку сп. Віталь ЗАЙКА падчас прамовы.***

Затым адбыўся ўрачысты банкет, пасьля якога пачаўся сьвяточны канцэрт. У ім выступілі славутая сьпявачка Валянціна Пархоменка, Вольга і Алесь Казакі – з традыцыйнымі беларускімі сьпевамі. Слынны лідар гурту "NRM" сп. Лявон Вольскі быў энтузыястычна сустрэты маладзьдзю, і выканаў песьні з "Народнага Альбому", "Крамбамбулі" і з рэпэртуару гурту "NRM". Яму акампанаваў на гітары музыка з Дэлявэру Гіаўлюк. Са сваімі песьнямі выступіў знакаміты паэт і бард сп. Сяржук Сокалаў-Воюш, якому акампанавалі сыны — Славамір і Сьветавіт.

Па словах удзельнікаў імпрэзы, сярод якіх сёлета было вельмі шмат моладзі, сьвяткаваньне ператварылася ў сапраўднае сьвята беларускасьці, дало магчымасьць пачуцца беларусамі далёка ад Бацькаўшчыны, паслухаць беларускую песьню як традыцыйную, так і новую.

***Віталь ЗАЙКА***



На ўрачыстым сьвяткаваньні 87 угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі 20 сакавіка 2005 году ў Нью Брансвіку, Нью Джэрзі, былі адкрытыя дзьве выставы. Абедзьве зь іх падрыхтавала спн. Валянціна Якімовіч, сакратар нью ёркаўскага аддзелу БАЗА. Гэта былі выстава яе карцінаў і выстава лялек, апранутых у беларускія народныя строі розных рэгіёнаў Беларусі. Спн. Якімовіч сама пашыла ўсе строі для лялек.

***На здымку: сьпявачка Вялянціна Пархоменка, старшыня нью джэрзійскага аддзелу БАЗА Юрка Азарка і мастачка Валянціна Якімовіч ля выставы яе карцінаў, падрыхтаванай да сьвята.***

# Рэзалюцыя

## ўрачыстага сходу па адзначэньні 87-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі ў Нью Брансвіку, Нью Джэрзі, ЗША

~ ~ ~

*Уважаючы на тое, што падваліны незалежнай і дэмакратычнай Беларусі былі закладзеныя Радаю Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР) 25 сакавіка 1918 году ў Менску, а такама тое, што*

*- узброеныя сілы БНР мужна баранілі незалежнасьць краю, але былі пераможаныя лічнейшым войскам Савецкай Расеі ў лістападзе 1920 году пад Слуцкам, а ў 1921 годзе Беларусь была падзеленая паміж Савецкай Расеяй і Польшчай, і*

*- пасьля каляпсу Савецкага Саюзу ў 1991 годзе Беларусь аднавіла сваю незалежнасьць; аднак пасьля 1994 году дэмакратычна прынятая Канстытуцыя была ўзурпаваная Аляксандрам Лукашэнкам, які фактычна ўвёў рэжым асабістай дыктатуры, і*

*- цягам апошняга дзесяцігодзьдзя дыктатарскі рэжым Лукашэнкі гвалтоўна прыціскае ўсялякую нязгоду з ягонай антыдэмакратычнай палітыкай, выкрадаючы й забіваючы сяброў дэмакратычнай апазыцыі, робячы Беларусь бастыёнам аднаўленьня Савецкай імпэрыі, і*

*- рэжым Лукашэнкі манапалізаваў масавыя сродкі, патаптаў канстытуцыйны прынцып падзелу ўладаў, фальшаваў выбары, падаўляў свабоду друку, русыфікаваў нацыянальную культуру, зьневажаў беларускую мову, а*

*- Кангрэс ЗША прыняў, а прэзыдэнт ЗША Дж. Буш 20 кастрычніка 2004 году падпісаў, надаўшы сілу закону, Акт аб Дэмакратыі ў Беларусі, які скіраваны на забясьпечаньне свабодных выбараў, радыё- і тэлевяшчаньня на Беларусь, разьвіцьця незалежных масавых сродкаў, і ўзмацненьня дэмакратычных палітычных партыяў –*

*таму мы, удзельнікі гэтага ўрачыстага адзначэньня 87-х угодкаў Абвешчаньня Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, што сабраліся ў Нью Брансвіку, Нью Джэрзі, аднадушна пастанаўляем, што;*

*- мы выказваем нашую глыбокую падзяку Кангрэсу Злучаных Штатаў за наданьне праўнай моцы Акту аб Дэмакратыі ў Беларусі й запрашаем падтрымаць эфэктыўнае фінансаваньне Акту дзеля належнай падтрымкі й разьвіцьця дэмакратыі ў Беларусі.*

*- мы заклікаем дэмакратычную апазыцыю ў Беларусі згуртавацца вакол адзінага кандыдата падчас маючых неўзабаве адбыцца прэзыдэнцкіх выбараў дзеля стварэньня моцнага аб'яднанага фронту супраць тыраніі;*

*- мы заклікаем усіх свабодалюбных беларусаў аб'яднацца супраць аўтарытарнага рэжыму Лукашэнкі, каб у блізкай будучыні бел-чырвона-белая рэвалюцыя паклала канец тыраніі гэтак, як зрабілі нашыя ўкраінскія браты.*

***Нью Брансвік, 20 сакавіка 2005 году***

# Ідэалы БНР у кантэксьце часу

***Рэфэрат сп. Зянона Пазьняка, прачытаны ў Нью Брансвіку***

Беларуская Народная Рэспубліка і Сакавік сталі для нас, беларусаў, вялікім сакральным сымбалем. Гэтая зьява, па якой мераецца сьведамасьць і ацэньваецца годнасьць асобы. Гэта зьмест, па якім вызначаецца беларус.

Мы кажам пра ідэалы Сакавіка як пра вяршыню ўсьведамленьня нацыянальных інтарэсаў, сфармуляваных у дакумантах, дэклярацыях і дзеяньнях. Забесьпячэньне гэтых інтарэсаў ёсьць аб'ектыўнаю вымогаю нацыі. Ад іх нельга адмовіцца ці падмяніць нечым іншым.

Узгаданьне пра адмену ці падмену тут ня ёсьць выпадковым для тых нацыяў, якія змагаюцца з палітыкай імпэрыі й з імпэрскай ідэалёгіяй. Бо падмена каштоўнасьцяў ёсьць адным з асноўных мэтадаў імпэрскай палітыкі супраць свабоды народаў.

Беларуская Народная Рэспубліка ўтварылася ў барацьбе з Расейскай імпэрыяй. Галоўныя каштоўнасьці, якія сьцьвердзіла БНР — гэта дзяржаўная незалежнасьць Беларусі, вольнае нацыянальнае разьвіцьцё краіны й грамадзянская свабода людзей Беларусі, роўнасьць перад законам.

Расейскаяя палітыка ў дачыненьні да Беларусі за апошнія сто гадоў практычна не перамянілася ані ў чым. Пагроза незалежнасьці Беларусі й пагроза існаваньню беларускай нацыі з боку Расеі ня зьменшала, а толькі павялічылася. Адсюль вынікае бясспрэчнае меркаваньне, што людзі, якія займаюцца палітыкай у Беларусі, і якія ў той ці іншай ступені шукаюць падтрымкі й разуменьня ў Маскве, дзеюць у разрэз зь беларускімі інтарэсамі й прынцыпамі БНР, насуперак ім.

У змаганьні зь беларускай незалежнасьцю на працягу апошняга стагодзьдзя Расея старалася выкарыстаць два этапы. Першы — гэта стварэньне свайго ўплыву і прысутнасьці ва ўладзе ў Беларусі. Другі этап — гэта падрыхтоўка інкарпарацыі Беларусі ў Расею, якая дэклявалася як "аб'яднаньне" Беларусі з Расеяй. Наступны этап — анэксія, ці паглынаньне, мусіў быць ужо вынікам першых двух этапаў. Гэтак адбывалася інкарпарацыя беларускіх тэрыторыяў у мінулым стагодзьдзі, у 1910-х і 1920-х гадох. Гэтакаяж палітыка праводзіцца і цяпер.

У гэтай сувязі пытаньне абароны незалежнасьці Беларусі, ня гледзячы на існаваньне незалежнай Беларускай дзяржавы, паўстае вельмі востра, і павялічваецца значаньне гістарычнага існаваньня ідэалаў Беларускай Народнай Рэспублікі, якая выступае як ідэйны эталён незалежнасьці Беларускай дзяржавы.

Пытаньнем нумар адзін нацыянальнага змаганьня за незалежнасьць, свабоду і нацыянальнае самасьцьверджаньне было і ёсьць пытаньне легальнага прызнаньня і дзяржаўнага ўкараненьня нацыянальнай мовы.

Статус нацыянальнай мовы гэта ёсьць пытаньне абсалютнага і найважнейшага значаньня ў нацыянальных рухах Эўропы. Гэта аднязначна падцьвердзіла гісторыя больш чым двух стагодзьдзяў нацыянальнага змаганьня за свабоду, пачынаючы з канца 18-га стагодзьдзя.

Важнейшым этапам гэтай барацьбы была так званая "вясна народаў"— змаганьне за нацыянальную незалежнасьць паняволеных народаў супраць чатырох імпэрыяў – Расейскай, Атаманскай, Прускай і Аўстрыйскай.

Мы, беларусы, улучаныя ў антыімпэрскую барацьбу, і заканамернасьці гэтага змаганьня мы адчуваем па сёнешні дзень. Бо з чатырох імпэрыяў захавалася толькі адна — Расейская. Таму для нас, а таксама ўкраінцаў, чачэнцаў ды іншых народаў, што былі паняволеныя Расей, барацьба яшчэ не спынілася.

У пэрыяд нацыянальнага змаганьня і асьветніцтва ўсё нацыянальнае мастацтва, літаратура і тэатар былі падпарадкаваныя сьцьвярджэньню афіцыйнага статусу нацыянальнай мовы. Гэта падцьверджана дэклярацыямі літаратурных, мастацкіх і асабліва тэатральных дзеячоў, бо тэатар, па трапным вызначэньні расейскага нацыянальнага драматурга Астроўскага, ёсьць вобраз, адлюстраваньне нацыі ("Тэатар — гэта нацыя"). Заснавальнік вэнгерскага прафэсыйнага тэатру Ота Кэлеман яшчэ ў канцы 18 стагодзьдзя цьвердзіў, што асноўная задача яго тэатру і творчасьці ягонай трупы — гэта ўкараненьне і прапаганда вэнгерскай мовы, бо ў той час вярхі вэнгерскага грамадзтва былі анямечаныя.

Асьветніцтва пэрыяду "вясны народаў" вызначала тады ідэалёгію нацыі й ідэалёгію нацыянальнага змаганьня, і невыпадкова, што наперад усяго ставілася нацыянальная мова.

Нацыянальныя асьветнікі й змагары народаў разумелі, што мова ёсьць адначасна і грунт, і сродак нацыянальнай культуры. А значыць — і дэмакратычнай нацыянальнай дзяржавы. Гэта вынікае з таго, што мова ёсьць ня толькі вынік нацыянальнага разьвіцьця, але і галоўны сродак гэтага разьвіцьця.

Сакавік і Рада БНР яскрава паказалі, што беларуская дэмакратыя ў Беларусі можа быць абапертая толькі на нацыянальную ідэю, канкрэтна — на ідэалы 25 Сакавіка і БНР. Каб дапамагчы сабе і сваёй краіне, беларусам трэба трымацца ясных і простых правілаў — усюды гаварыць па-беларуску. Гэта будзе перамога, якую ніхто ня зможа ад беларусаў адабраць. І дасягаецца яна непасрэдным жаданьнем і высілкам волі. Можна прапанаваць кодэкс моўных паводзінаў кожнага беларуса. Такія пісаныя і няпісаныя кодэксы былі распрацаваныя ў іншых народаў і датычылі асобы, сям'і, выхаваньня, школы, грамадзкіх паводзінаў і г. д. Там дзе зьбіраюцца беларусы, ці гэта на Бацькаўшчыне, ці на чужыне — там павінна гучаць беларуская мова. Гэта мусіць стаць няпісаным правілам. Пачынаць трэба зь сябе, а потым патрабаваць ад іншых. Гэты моцны мэханізм нацыянальнага адраджэньня, які выдатна спрацаваў у іншых народаў, павінен быць выкарыстаны й у Беларусі. Ідэёвым і практычным апірышчам у гэтай справе ёсьць дакументы, дэклярацыі й практычная дзейнасьць Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.

Дзейнасьць Рады БНР гэта становчая зьява ў нашым палітычным жыцьці. Абвешчаньне Незалежнасьці Беларусі 25 Сакавіка 1918 году адкрыла новую эпоху ў беларускай гісторыі — эпоху нацыянальнага змаганьня за Беларусь і культурнага адраджэньня беларускай нацыі.

Мы ўшаноўваем гэтае сьвята і будзем шанаваць заўсёды з усёй павагай і ўдзячнасьцю беларускім змагарам, якія 87 гадоў таму павярнулі кола новай беларускай гісторыі.

# 25 Сакавіка – ў Вільні

Каб ушанаваць 87 гадавіну абвешчаньня незалежнасьці БНР, якая сёньня ў Беларусі забароненая, 25 сакавіка аб 11-й гадзіне сябры Таварыства Беларускай Культуры ў Летуве, колькасьцю звыш 20 чалавек, зладзілі пікет пратэсту перад амбасадаю Рэспублікі Беларусь у Летуве. З нацыянальнымі сьцягамі й плякатамі: "Ідзе вясна, вясна свабоды", "Свабоду палітычным вязьням!", " 87 Жыве Беларусь!" выступілі праз гукаўзмацняльнік да грамадзянаў Летувы й супрацоўнікаў амбасады аб значэньні даты 25 сакавіка 1918 году для гісторыі, а таксама аб парушэньні правоў чалавека і выніках татальнай русыфікацыі ў школьніцтве і грамадзкім жыцьці беларусаў. Адзін за другім падыходзілі ўдзельнікі пікету да мікрафону, каб выказаць свой пратэст супроць становішча ў Беларусі. Акцыя была паказаная на летувіскім тэлебачаньні.

26 сакавіка ў сядзібе Таварыства Беларускай Культуры ўрачыста адзначылі гістарычную падзею абвешчаньня III Устаўной Граматай незалежнасьці БНР. Пасьля гімну "Мы выйдзем шчыльнымі радамі", са зьместоўным дакладам аб гістарычным значэньні 25 Сакавіка выступіў прафэсар Анатоль Грыцкевіч. Мастацкую частку выканаў вядомы бард Зьміцер Бартосік.

За кубкам кавы з пачастункам госьці доўга яшчэ не разыходзіліся, а ў сяброўскай бяседзе, абменьваліся думкамі й уражаньнямі ад сустрэчы й справах ТБК.

*Хведар НЮНЬКА*



*Удзельнікі пікету ў Вільні 25 сакавіка 2005 году.*

# Весткі з Бэльгіі

З нагоды 52-й гадавіны зь дня сьмерці Мікалая Равенскага ў горадзе Лювэне прайшло памінальнае набажэнства і патрыятычны мітынг.

Вакол магілы слаўнага кампазытара сабраліся сябры Беларуска-Эўрапейскага Задзіночаньня і Грамады "Сьвяты Язафат" - парафіянаў Беларускае Царквы Ўваскрасеньня Хрыстовага горада Антвэрпэна.

У ліку ганаровых удзельнікаў былі прадстаўнікі Рады БНР спадары Янка Жучка і Аляксей Арэшка, якія былі адзінымі, хто асабіста ведалі спачылага.

На пачатку ўрачыстасьці сп. Я. Жучка прамовіў слова, ў якім у форме звароту да нябожчыка прыгадаў мінулае, зьвязанае зь ім. Ля помніка былі разгорнутыя бел-чырвона-белыя сьцягі й важная рэліквія - харугва Згуртаваньня Беларускай Моладзі, якая была зробленая яшчэ ў 1948 годзе і захоўваецца ў беларусаў паваеннай хвалі эміграцыі.

Затым сьвятар Ян Майсейчык адслужыў паніхіду, на якой усе ўзьнесьлі малітвы за спачын душы с. п. Мікалы Равенскага. Потым сп. Сяржук Пашкевіч зрабіў даклад пра жыцьцё і дзейнасьць выбітнага кампазытара, а сп. Зьміцер Піменаў усклаў на магілу кветкі й запаліў зьнічык - сымбаль малітоўнае памяці аб слаўным сыне беларускага народу.

Зь вялікім натхненьнем прысутныя прасьпявалі малітву "Магутны Божа", музыку для якое напісаў Мікола Равенскі. Завершылася гэтае мерапрыемства супольным ламаньнем хлеба і келіхам віна.

*******

Таксама 13 сакавіка падчас сустрэчы Янкі Жучкі й Аляксея Арэшкі з прадстаўнікамі БЭЗ былі перададзеныя кнігі для бібліятэкі пры Беларускай царкве Антвэрпэна, якія раней належалі сьветлай памяці Лаўрэну Клыбіку.

*Прэс-служба БЭЗ*



# Пад знакам Пагоні

***Чэхі разам зь беларусамі і падчас нацыянальных сьвятаў, і пры вырашэньні праблемаў барацьбы за дэмакратыю.***

У памешканьні Сэнату Чэскай Рэспублікі 25 сакавіка з нагоды ўрачыстага сьвяткаваньня Дня Волі ў Беларусі адбыўся "круглы стол" на тэму "Ад таталітарызму і тыраніі да сапраўднай незалежнасьці". Ініцыятарамі правядзеньня гэтай сустрэчы зьявіліся грамадзкае аб'яднаньне "Зьвяз Беларусаў Замежжа", група чэскіх сэнатараў на чале з намесьнікам старшыні верхняй палаты парляманту Чэхіі Эдвардам Оўтратай і міжнародная арганізацыя Amnesty International. Больш за дзьве гадзіны ўдзельнікі "круглага стала" абменьваліся думкамі наконт таго, чым Эўропа, Чэхія і беларуская дыяспара могуць дапамагчы беларускай справе, дэмакратызацыі краіны й зьмене палітычнага рэжыму ў Беларусі.

Віншаваньнем прысутных са сьвятам 25 Сакавіка распачаў паседжаньне Аўген Сідорык, старшыня ЗБЗ. Ён адзначыў, што сёньня Беларусь хоць і зьяўляецца незалежнай, але насамрэч залежыць ад шмат якіх фактараў: пачынаючы ад коштаў на нафту, палітыкі Крамля, да асабістых памкненьняў Лукашэнкі.

Сэнатары ЧР Ярамір Шчэціна і Марцін Мэйстршык, чэскі спэцыяліст у галіне беларускіх пытаньняў Йозэф Брож цікавіліся тым, што думаюць аб сітуацыі ў Беларусі такія дзеячы, як прадстаўнік БНФ у краінах Бенілюксу і намесьнік старшыні Беларуска-Эўрапейскага Задзіночаньня Ігар Лазарчук, які прыехаў на сустрэчу з Бэльгіі, адзін з лідэраў сацыял-дэмакратычнай партыі й паплечнік генэрала-апазыцыянэра Фралова Сяргей Каваль, палітычная ўцякачка зь Беларусі, якая жыве ў Нямеччыне Галіна Арцёменка, прадстаўніца "Маладой Грамады" Сьвятлана Нех, вядомы мастак Алесь Пушкін ды іншыя.

Чэскі бок выказаў шчырае спадзяваньне ў тым, што хваля рэвалюцыйных падзеяў, якая пачалася ў Грузіі, і потым перамокна працягвалася ва Ўкраіне і Кыргызстане, хутка прыйдзе і ў Беларусь. Але, як высьветлілася падчас дыскусіі, дзеля гэтага патрэбна яшчэ шмат чаго зрабіць. Рэжым Лукашэнкі робіць ўсё магчымае, каб максымальна ізаляваць тых дзеячоў, якіх уважае найбольш небясьпечнымі. Напрыклад, ня здолелі прыехаць у Прагу спэцыяльна запрошаныя госьці – генэрал Фралоў ды ягоны калега па барацьбе супраць рэжыму Сяргей Скрабец, а таксама лідэр арганізацыі "Рабочая самадапамога" Сяргей Антончык. Судзьдзі-лукашысты напярэдадні аштрафавалі на некалькі тысячаў даляраў кожнага зь іх. Гэта і зьявілася падставаю для, каб не дазволіць ім выезд замяжу.

Удзельнікі сустрэчы падрабязна спыняліся на ўсіх праблемах як беларускай супольнасьці, так і беларускай апазыцыі. Стомленасьць і апалітычнасьць электарату, нядольнасьць апазыцыянераў аб'ядноўвацца і вырашыць спрэчкі аб тым, хто зь іх найлепшы, слабы фінансавы стан апазыцыі, абмежаванасьць незалежных СМІ, - усё гэта абмяркоўвалася на "круглым стале".

Мерапрыемства выклікала да сябе вялікую зацікаўленасьць. На ім прысутнічалі журналісты цэнтральнага тэлебачаньня "ЧТ1", радыё і



*Падчас паседжаньня "круглага стала" у Празе.*

нават прадстаўнік беларускай амбасады ў Празе.

Ці могуць нам у вырашэньні хаця-б часткі гэтых праблемаў дапамагчы чэхі? Паводле думкі пераважнай большасьці беларусаў – так, могуць. Гэта народ, які яшчэ добра памятае, што такое таталітарызм і расейскі імпэрыялізм. На думку Ігара Лазарчука, чэскія дэпутаты Эўрапарляманту маглі-б далучыцца да ініцыятывы сваіх польскіх і летувіскіх калегаў і дамагчыся, каб Эўрапейскі Зьвяз падтрымаў і фінансаваў адкрыцьцё на тэрыторыі суседніх зь Беларусьсю краінаў радыё- і тэлевізійных станцыяў, якія-б працавалі на беларускага слухача і гледача. Такім чынам была-б вырашаная праблема інфармацыйнай блякады Беларусі.

Тое-ж самае тычыцца і пытаньня забароны ўезду ў Эўропу ня толькі для бліжэйшых паплечнікаў Лукашэнкі, што маюць дачыненьне да палітычных выкраданьняў і забойстваў, але і для міліцыянтаў і амапаўцаў, якія рэгулярна ўдзельнічаюць у брутальным падаўленьні дэманстрацыяў апазыцыі.

Спадар Сяргей Коваль падрабязна распавёў аб плянах генэрала Фралова і ягонай каманды па падрыхтоўцы да наступных прэзыдэнцкіх выбараў. Магчыма, што ў сувязі з тым, што рэйтынг Лукашэнкі падае, ён можа аб'явіць датэрміновыя выбары яшчэ сёлета. Трэба ісьці да людзей, размаўляць зь імі, пераконваць у слушнасьці апазыцыі, у тым, што Лукашэнка – гэта ўчарашні дзень для Беларусі. Трэба дамаўляцца аб супрацоўніцтве з прадстаўнікамі беларускай эліты.

Спн. Галіна Арцёменка гаворыла аб патрэбе фармаваць пазытыўны імідж беларусаў на Захадзе, бо шмат людзей у Эўропе атаясамліваюць іх са злачынным рэжымам Лукашэнкі. Тут трэба выкарыстоўваць магчымасьці беларускіх палітычных уцекачоў.

Спн. Сьвятлана Нех вельмі песымістычна ахарактарызавала сёньняшнюю палітычную сытуацыю ў Беларусі, сказала, што апазыцыйныя партыі сябе дыскрэдытавалі, і зараз Лукашэнка сваёй антынароднай палітыкай больш агітуе людзей супраць сябе, чым гэта робіць уся апазыцыя. Аптымістычна глядзець у будучыню ёй дапамагаюць апошнія дэкрэты Лукашэнкі аб фактычным закрыцьці мяжы для грамадзянаў: такім чынам, актыўная і разумная моладзь застанецца ў Беларусі й хучэй разьбярэцца з гэтым дыктатарам.

Мастак Алесь Пушкін заклікаў больш займацца працаю дзеля культурнага зьбліжэньня чэскага і беларускага народаў. Выставы, спэктаклі, кіно – усё гэта будзе спрыяць духоўнаму адраджэньню супольнасьці ў Беларусі.

Напрыканцы "круглага стала" сэнатары падзякавалі за цікавы й зьместоўны дыялёг, выказалі надзею, што змогуць паўплываць на пазытыўнае вырашэньне некаторых пытаньняў, якія абмяркоўваліся ва ўрачыстай зале паседжаньняў Сэнату Чэскай Рэспублікі.

Таксама было прынятае рашэньне зрабіць такія сустрэчы традыцыйнымі. Наступная запланаваная на першую палову чэрвеня 2005 году.

*Алесь КІРОЎЦА*

# Беларусь за месяц

## Невясёлы Дзень Волі

Тры месяцы да 25 сакавіка бізнэсовец і літаратар Андрэй Клімаў паабяцаў зрабіць рэвалюцыю, заяўляючы, што на Кастрычніцкай плошчы зьбярэцца паўмільёна чалавек. Прадубляваў свае мары й напярэдадні акцыі ў інтэрв'ю "Народнай волі".

Аднак рэвалюцыі не адбылося. На акцыю прыйшлі толькі паўадсотка ад заяўленай колькасьці — паўтары тысячы. Палітыкі й грамадзкія дзеячы мерапрыемства праігнаравалі. Некаторыя зайздросьцяць аптымізму і энэргіі Клімава, іншыя вінавацяць яго ў правакатарстве.

Зрэшты, і ўлады, напалоханыя падзеямі таго тыдня ў Кыргызстане, падрыхтаваліся някепска. Пасьля апоўдня цэнтар беларускай сталіцы быў блякаваны сіламі АМАПу і вайскоўцаў. Каля пятнаццаці машын стаялі ля Кастрычніцкай плошчы й будынка Адміністрацыі прэзыдэнта.

Андрэя Клімава, які прыйшоў на акцыю, міліцыя на плошчу не пусьціла, як не пусьціла й некалькіх сотняў дэманстрантаў, што згрупаваліся на ходніках уздоўж праспэкту Скарыны. АМАП расьсёк дэманстрантаў на часткі і пачаў выціскаць з плошчы.

"У нас падзеі толькі пачынаюцца, ад сёньня пачынаецца беларуская рэвалюцыя. Яна скончыцца нашай перамогай. Нас у Беларусі большасьць", заявіў Клімаў журналістам.

У момант "стаяньня" на праспэкце Скарыны позірк мітынгоўшчыкаў упаў на гурбы сьнегу – у АМАП паляцелі сьнежкі й ледзяшы.

Маніфэстантаў выціснулі спачатку на Пляц Волі, а зь яго на плошчу Машэрава. Падчас акцыі былі затрыманыя 31 чалавек. Паводле прэс-службы Міністэрства ўнутраных справаў, усе яны былі затрыманыя ў якасьці "сьведкаў". А. Клімаву ўдалося вырвацца.

28 сакавіка ў судзе Цэнтральнага раёну Менску прайшлі адміністрацыйныя суды над "сьведкамі". Вячаслаў Сіўчык, Карэн Акопаў, Юры Фабішэўскі атрымалі па 15 сутак, Вадзім Таптуноў і Анатоль Ціханаў – дзесяць сутак, Сяргей Логінаў – сем сутак, астатнія ўдзельнікі акцыі (чатырнаццаць чалавек) па трое і пяцёра сутак.

Штрафы па 50 базавых велічыняў ($559) атрымалі Зьміцер Гарбуноў, Віктар Савіцкі й Валянцін Сямак.

25 сакавіка былі падаўленыя сьвяточныя акцыі й у правінцыі. У Жодзіне затрымалі актывістаў "Маладога фронту" Яўгена Ваўкаўца, Паўла Красоўскага, Сяргея Слабуху, Алеся Смольскага. У Віцебску сябраў Партыі БНФ – Рыгора Костусева, Віталя Макаранку, Зьмітра Салаўёва. У Віцебску – сябраў КХП БНФ Ігара Мацьвеева, Аляксандра Салаўяна, Барыса Хамайду, Алеся Пазьняка.

Па факце вулічных сутыкненьняў у цэнтры сталіцы 25 сакавіка была распачатая крымінальная справа паводле арт. №342 Крымінальнага кодэксу (арганізацыя групавых дзеяньняў, што парушаюць грамадзкі парадак, альбо актыўны ўдзел у іх). У якасьці пакараньня прадугледжваецца пакараньне ў выглядзе штрафу альбо арышту на тэрмін да шасьці месяцаў, альбо абмежаваньне волі на тэрмін да трох гадоў, альбо пазбаўленьне волі на гэты-ж тэрмін.

Дарэчы, гэтае пакараньне пагражае і экс-старшыні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі "Народная Грамада" Міколе Статкевічу і былыму лідэру "Маладога фронту" Паўлу Севярынцу. Яны абвінавачаныя ў арганізацыі "масавых беспарадкаў" у Менску 18-19 кастрычніка, калі ў Менску праходзілі акцыі пратэсту супраць фальсіфікацыі вынікаў рэфэрэндуму і парлямэнцкіх выбараў. У дачыненьні да іх таксама заведзеныя крымінальныя справы.

## Лукашэнка шкадуе

Выказваючы спачуваньні з прычыны сьмерці Папы Рымскага Яна Паўла II, які памёр увечары 2 красавіка, кіраўнік Беларусі Аляксандар Лукашэнка выказаў шкадаваньне, што пантыфік так і не наведаў Беларусі.

Прынамсі, падставы для гэтага былі, апошнім часам нават абвешчаны курс на дыялёг з рымска-каталіцкім касьцёлам у Беларусі, а сам прэзыдэнт двойчы сустракаўся зь ярархамі беларускага касьцёлу.

Амаль тры гады таму, 22 жніўня 2002 году, кіраўнік дзяржавы заявіў, што лічыць магчымым візыт Яна Паўла II у Беларусь. Лукашэнка тады адзначыў, што на тэрыторыі Беларусі маглі-б сустрэцца кіраўнікі рыма-каталіцкай і Расейскай праваслаўнай царквы. Аднак адразу запярэчыў Беларускі экзархат Расейскай праваслаўнай царквы: на наступны дзень прэс-сакратар экзарху Андрэй Петрашкевіч заявіў, што сустрэча Яна Паўла II і Аляксея II магчымая толькі пры выкананьні Рымска-каталіцкім касьцёлам некалькіх умоваў. Масква, а разам зь ёй і праваслаўны Менск абвінавачвалі Касьцёл у паліты уніі й празэлітызму, якія Ватыкан нібыта праводзіў на тэрыторыі Расеі й Украіны. Пра выкананьне праваслаўнай царквой умоваў са свайго боку, канечне, размовы не вялося.

## Супольная трагедыя

23 сакавіка пад горадам Мванза пацярпеў катастрофу транспартны самалёт ІЛ-76. Самалёт належаў украінскай транспартнай кампаніі "Авіязабесьпячэньне Украіны", быў арандаваны малдаўскай кампаніяй і ажыцьцяўляў у Харватыю рыбныя перавозкі. Крылатая машына ўпала адразу пасьля ўзьлёту проста ў возера Вікторыя. Сярод васьмі членаў экіпажу шасьцёра былі грамадзянамі Беларусі. Прычынамі трагедыі маглі стаць птушкі, што трапілі ў рухавікі паветранага судна.

Міністэрства замежных справаў Беларусі ўпаўнаважыла расейскага консула ў Танзаніі для правядзеньня ўсіх дзеяньняў і афармленьня неабходных дакумантаў. Дастаўка целаў загінулых на радзіму магчыма толькі пасьля расшыфроўкі "чорных скрыняў" і апазнаньня.

## Спэцдаклад па Беларусі

Спэцыяльны дакладчык ААН па правах чалавека ў Беларусі, экс-міністар замежных справаў Румыніі Адрыян Севярын на 61-й сесіі Камісіі ААН па правах чалавека ў Жэневе моцна раскрытыкаваў парадкі ў Беларусі. Севярын зазначыў, што Беларусь хоць і не клясычная дыктатура, але бюракратычная і аўтарытарная дзяржава, дзе сыстэматычна парушающца правы чалавека, і якая ўяўляе пагрозу рэгіянальнай стабільнасьці й бясьпецы.

Беларуская дэлегацыя (кіраўнік — Сяргей Алейнік) заявіла, што чыноўнік ААН ня мае рацыі, і з правамі чалавека ў нас ўсё як мае быць. Адрыян Севярын-жа адказаў, што беларусы крывадушнічаюць.

Выказаў незадавальненьне дакладам і Аляксандар Лукашэнка: "Мы ня церпім, калі нас пастаянна цкуюць, калі пачынаюць торгаць, штурхаць да тых ці іншых рашэньняў. Вы бачылі даклад таго Севярына. Тут хадзіў, пасьміхаўся. Як толькі паехаў адсюль, пад дыктоўку розных палітыкаў пачаў чытаць даклады".

Зазначым, што ў сьнежні мінулага году Адрыян Севярын спрабаваў прыехаць у Беларусь, аднак ўлады не далі візы, адмовіўшыся супрацоўнічаць са спэцыяльным дакладчыкам ААН.

## "Горшыя з найгоршых"




Праваабарончая арганізацыя Freedom House надрукавала справаздачу — "Найгоршыя з найгоршых: найбольш рэпрэсіўныя грамадзтвы сьвету ў 2005 годзе", — паведамляе "Радыё Свабоды". Гэта фрагмэнт штогадовай справаздачы аб сытуацыі ў галіне свабодаў і правоў чалавека, што будзе апублікаваная пазьней. У ёй штогод клясыфікуюцца краіны сьвету паводле ацэнкі: "свабодная, часткова свабодная і несвабодная". Сярод васемнаццаці краінаў і трох рэгіёнаў сьвету з найбольш недэмакратычнымі рэжымамі апынулася і Беларусь. Побач зь Віетнамам, Гаіці, Гвінэяй, Зымбабвэ, Кітаем, КНДР, Кубай, Лібіяй, М'янмай, Самалі, Суданам, Туркмэністанам, Эрытрэяй.

Шэсьць старонак у справаздачы Freedom House прысьвечаныя ацэнцы сытуацыі ў Беларусі. На шкале ад 1 да 7 балаў, ад найлепшай да найгоршай, у сэнсе палітычных правоў Беларусь атрымала найгоршую адзнаку — 7 балаў, у галіне грамадзянскіх правоў — 6 балаў.

## Нават не пакармілі

19 сакавіка беларускія сацыял-дэмакраты паспрабавалі чарговы раз аб'яднацца. Плянавалася, што на аб'яднаўчым зьезьдзе да Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі "Народная Грамада" далучацца сябры Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады, а кіраўніком партыі будзе абраны экс-рэктар Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту, а цяпер кіраўнік грамадзкай ініцыятывы "Воля народу" і патэнцыйны прэтэндэнт на пост прэзыдэнта Аляксандар Казулін. Аднак, як заўсёды, у гаротных эсдэкаў не атрымалася.

Адміністрацыя матэлю-кэмпінгу "Інтурыст" пад Менскам, куды прыбылі на зьезд больш за двухсот дэлегатаў з усіх рэгіёнаў краіны, адмовіла ў арэндзе памяшканьня. Пасьля нядоўгіх перамоваў сацыял-дэмакраты выехалі ў Менск, у забаўляльны кэмпінг "Журавінка", дзе арганізатары форуму абяцалі накарміць дэлегатаў абедам. Аднак і тут дэлегатаў не пусьцілі ў памяшканьне. Так і разьехаліся па хатах.

Чарговая спроба правесьці аб'яднаўчы зьезд прызначана на 10 красавіка. Казулін паабяцаў запрасіць на гэты зьезд замежных журналістаў і амбасадараў.

## Кожны сам сабе "адзіны"

Пры канцы сакавіка аб'яднаная апазыцыя, у складзе дзесяці найбуйнейшых (па беларускіх мерках) партыяў і грамадзкіх арганізацыяў мелася закрыць сьпіс прэтэндэнтаў на ролю адзінага кандыдата ў прэзыдэнты на выбарах 2006 году ад дэмакратычных сілаў.

Хоць сьпіс і закрыты, але ў яго магчыма, будуць унесеныя зьмены. Пакуль у яго ўключаны кіраўнік Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька, старшыня Партыі камуністаў Сяргей Калякін, падтрыманы Партыяй БНФ і экалягічнай партыяй "зялёных" беспартыйны Алесь Мілінкевіч, кіраўнік Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі Станіслаў Шушкевіч і палітэмігрант сябра Партыі БНФ Валер Грыцук. Па-за сьпісам апынуліся старшыня "Народнай Грамады" Мікола Статкевіч, дырэктар Беларускага гуманітарнага ліцэю Уладзімер Колас, кіраўнік "Волі народу" Аляксандар Казулін, экс-сьпікер Савету Рэспублікі й былы прэзыдэнт Акадэміі навук Аляксандар Вайтовіч, а таксама палітэмігрант, лідэр КХП БНФ Зянон Пазьняк.

Ці здолеюць дасягнуць згоды? Бо не змаглі дамовіцца дэмакраты 20 сакавіка на давыбарах у Палату прадстаўнікоў па адной з акругаў у Горадні. Там кандыдату ад улады рэктару мясцовага ўнівэрсытэту Сяргею Маскевічу супрацьстаялі сябра БСДП "Народная Грамада" Валер Фралоў і кандыдат ад Партыі БНФ Сяргей Антусевіч. Вынік прадказальны: упэўнена перамог Маскевіч.

## Шумчанку выпусьцілі

31 сакавіка старшыня рэспубліканскага грамадзкага аб'яднаньня прадпрымальнікаў "Пэрспэктыва" Анатоль Шумчанка быў выпушчаны на волю са сьледчага ізалятару Менгарвыканкаму. 1 сакавіка ён быў затрыманы пасьля мітынгу прадпрымальнікаў і асуджаны на дзесяць сутак адміністрацыйнага арышту. Аднак пазьней Шумчанку абвінавацілі ў зьбіваньні сукамерніка і распачалі ў дачыненьні да яго крымінальную справу (хуліганства), якая прадугледжвае зьняволеньне тэрмінам да двух гадоў. Аднак праз некалькі дзён зьбіты сукамэрнік (бомж Алег Хвастоў) распавёў журналістам незалежных мэдыяў, што Шумчанка сапраўды даў яму пару кухтылёў, але пасьля таго, як яны пагутарылі "памужчынску". Аднак адміністрацыя "падказала" напісаць яму заяву на Шумчанку, абвінаваціўшы яго ў зьбіцьці. Хвастову прапанавалі за гэта 200 тыс. рублёў. Хвастоў пагадзіўся, але потым пра ўсё распавёў.

## Трэці сход інтэлігенцыі

На суботу, 14 траўня, у Менску запланаваны чарговы, гэтым разам трэці, сход беларускай інтэлігенцыі. Арганізатары заяўляюць, што на зьезьдзе трэба абмеркаваць становішча ў якім апынулася і творчая, і тэхнічная інтэлігенцыя, настаўнікі й ўрачы пасьля рэфэрэндуму 17 кастрычніка і сытуацыю напярэдадні прэзыдэнцкіх выбараў. Вось толькі толку ад такога сходу ні ўладзе, ні самой інтэлігенцыі. Так, для птушачкі.

## Надсан – ляўрэат прэміі

Айцец Аляксандар Надсан за кнігу "Біскуп Чэслаў Сіповіч: сьвятар і беларус" узнагароджаны сёлета прэміяй Францішка Багушэвіча Беларускага ПЭН-цэнтру. "Па гісторыі беларускай царквы выдаюца абагульняльныя працы, а тут усё паказана на прыкладзе жыцьця й дзейнасьці аднаго чалавека".

## Павышэньне пэнсіяў

1 красавіка ў Беларусі на шэсьць адсоткаў павысіліся пэнсіі. Максымальная цяпер складае 309 тыс. рублёў ($143,7), сярэдняя - 196 тыс. 900 руб. ($91,6) мінімальная працоўная — 96 600 руб. ($44,9).

## Рэкамэндацыі ў войска

Міністар абароны Леанід Мальцаў прапанаваў браць у беларускае войска маладых людзей з рэкамэндацыяй ад Беларускага рэспубліканскага саюзу моладзі. Маўляў, конкурс, трэба браць лепшых.

БРСМ – гэта сёньняшні аналяг камсамолу, які актыўна субсыдуецца дзяржаваю і куды часам прымусова заганяюць студэнтаў. Выходзіць, ня хочаш ісьці ў войска, ня уступай у БРСМ.

*Уласны карэспандэнт*



Тут мне хацелася-б нагадаць, што ёсьць, і расставіць некаторыя акцэнты па актуальных пытаньнях палітычных дачыненьняў, каб з аднаго боку пацьвердзіць свае пазыцыі, з другога — высьветліць акалічнасьці гэтых дачыненьняў.

Найбольшы непакой выклікае тое, што Беларусь усё больш і больш штурхаюць не на свой шлях, не на сваю барацьбу, не пад свае сьцягі. У гэтым генэральная тактыка расейскіх імпэрыялістых на ўсіх узроўнях. У выніку былі беларусы, якія будавалі камунізм з расейскімі бальшавікамі, ці ваявалі за краіну Эсэсэсэр. Вынік гэтага векавога

перамогу і “выбар народу”.

Калі на выбары прэзыдэнта падставяць “ганчарыка” — ніякага энтузіязму і жаданьня змагацца ў людзей ня ўзьнікне (таму і шукаюць ганчарыкаў). Тады фальсыфікацыя спрацуе, як сякера.

Сытуацыю можна перайначыць, калі будзе беларуская народная альтэрнатыва. Тады зьвіцца і магчымасьць народнага змаганьня.

Стварыць штучна нацыянальную альтэрнатыву немагчыма, бо яна не ствараецца прапагандай. Яна ўзьнікае сама, у выніку дзейнасьці, сувымерных з народным рухам, ці хаця-б з народнымі паняцьцямі пра справядлівасьць.

Нічога новага ў гэтым родзе за апошнія 10 гадоў у Беларусі не зьявілася. Таму вяртаемся на зыходныя палажэньні й напачатку зоймемся арыфмэтыкай.

Лічба маіх рэальных прыхільнікаў у Беларусі ў прынцыпе не зьмянілася. Гэта каля аднаго мільёну асобаў (10-15 адсоткаў выбаршчыкаў). Не зьмянілася і лічба ненавісьнікаў (каля 25 адсоткаў), якія ні пры якіх абставінах ня будуць галасаваць за мяне і за беларускую справу. Астатнія людзі — гэта электарат

тыкі Расеі, палітычнай нявызначанасьці й, галоўнае, з-за невысокага ўзроўню нацыянальнай самаідэнтыфікацыі людзей, прыдушаных дзесяцігодзьдзямі чужой савецкай улады.

Фармальна рэжым трымаецца на вырабленым аўтарытарызме Лукашэнкі. Але ў сапраўднасьці (аб чым Лукашэнка ня раз прызнаваўся ў сваіх “адсябецінах”) — на падтрымцы Масквы й на ячэйках расейскай дзяржбясьпекі КГБ-ФСБ, канкрэтна на шматлікіх групах выробленых функцыянэраў маскоўскай агентуры, якія з падачы Лукашэнкі занялі ключавыя месцы ў структурах і ўсёй сыстэме новай акупацыйнай улады ў Беларусі. (Так, дарэчы, была скарыстаная ў Беларусі гэбоўская тэхналёгія “ўнутранай акупацыі”, якую раней актыўна ўжываў Савецкі Саюз у Афрыцы, на Блізкім Ўсходзе, у краінах Лацінскай Амэрыкі.)

Функцыянэраў і рэзыдэнтаў часта зьмяняюць (у гэтым спэцыфіка акупацыйнай улады; так трэба сыстэме), але антыбеларуская палітыка ад гэтага ніколі не зьмяняецца, а становіцца штораз больш вынішчальнай, расьперазанай і жорсткай.

працы, і сотнямі гінуць у нетрах крымінальнай краіны, альбо вяртаюцца пакалечанымі й абрабаванымі. Улік загінулых беларусаў нідзе не вядзецца (нават у Беларусі), бо адкрытая мяжа ў чорную прорву.

Умовы для выезду беларусаў на рабскую працу ў Расею (беспрацоўе і бясправе) створаныя штучна і зьяўляюцца часткаю маскоўскага пляну выціскваньня беларусаў з уласнай зямлі ў Расею на замену сьпітага расейскага охласа. Пра грандыёзныя эканамічныя страты для Беларусі тут, перад абліччам антычалавечага пляну нацыянальнай катастрофы, мы ўжо не гаворым.

Ніякі нацыянальны ўрад (нават людаедзкі) ніколі ў гісторыі не праводзіў і нідзе не праводзіць самазабойчай антынацыянальнай палітыкі. Гэтак-жа, як ніякі псыхічна нармальны чалавек, ня стане паліць сваю хату. Палітыку духоўнага, культурнага і дэмаграфічнага вынішчэньня нацыі праводзяць толькі чужыя, толькі акупанты.

Другі накірунак антыбеларускай стратэгіі — ліквідацыя беларускай дзяржавы. Ужо зроблена шмат падрыхтоўчай працы. Выз-

кол гэтай справы (пасадкі ў турму, уцёкі за мяжу, візыты ў экзатычныя краіны і г. д.).

Асобай апэрацыяй супраць Беларусі стала ўвядзеньне з пачатку гэтага году новых правілаў аплаты падатку на дабаўленую вартасьць (ПДВ). Цяпер з гандляроў будуць браць ПДВ у краіне прызначэньня тавараў (раней было наадварот). Заканадаўчая тэхналёгія пабіраньня ПДВ распрацавана так (альбо не распрацавана зусім), каб у выніку поўнасьцю зьнішчыць беларускі прадпрымальніцкі гандль і разбурыць беларускую эканоміку. І ўсё гэта ня ёсьць прычынаю бюракратычных памылак, а вынікам спэцыяльна распрацаванай атакі супраць Беларусі, якая па сутнасьці зьяўляецца эканамічнай і палітычнай агрэсіяй Расеі на нашу краіну.

У адрозьненьне ад Украіны й Расеі, у Беларусі не існуе алігархічных фінансавых групаў і алігархічнага капіталу. Стварыўся толькі адзін супэралігарх. Моц такога рэжыму - аднача́сна і ягоная слабасьць, якая звычайна рэалізуецца ў тым, што адзінага нелегітымнага “алігарха” ў адзін надзвычайны дзень арыштоўвае ягонае-ж асяродзьдзе. Дастатко-

Зянон ПАЗЬНЯК

# Развагі пра беларускія справы

чужога змаганьня такі: забіта трэць беларускай нацыі, страчаныя культурныя каштоўнасьці, зглумлена мова, страчаны тэрыторыі. Што-ж было дасягнута тымі беларусамі для сябе? Пытаньне рытарычнае. Тым часам народы, якія змагаліся якраз за сябе і пад сваімі сьцягамі, таксама панесьлі ахвяры, але гэта былі ахвяры дзеля волі й лепшай будучыні свайго народу і сваёй краіны. І кожны, хто так змагаўся, яе дасягнуў.

### Аб альтэрнатыве

Беларускі Вызвольны Рух прапанаваў маю кандыдатуру на будучыя выбары прэзыдэнта Беларусі. Зважаючы на сытуацыю, якая існуе ў нашай краіне, я павінен узяць на сябе гэты абавязак. Інакш акупацыйны рэжым праз падстаўныя арганізацыі навяжа беларусам чарговага “адзінага ганчарыка”. Ужо распачалі яго пошукі.

Зразумела таксама, як дзейнічае на выбарах фальсыфікацыйная машына галасаваньня, улада, заканадаўства і адміністрацыйны рэсурс. Зламаць гэтую машыну можа толькі агульны народны энтузіязм, адкрытае змаганьне і салідарнасьць у правільных дзеяньнях. Правільнымі дзеяньнямі на антызаконным рэфэрэндуме 17 кастрычніка мінулага году павінен быў стаць байкот. Але паколькі (гэта галоўнае) не рашыліся на змаганьне, то ня ўзьнікла ні энтузіязму, ні правільных дзеяньняў. Грамадзтва не адважылася пайсьці за Вызвольным Рухам.

У выніку рэжым і ягоная “апазыцыя” загналі людзей на выбарчыя ўчасткі для галасаваньня, і сыстэме засталося толькі аб’явіць пра чарговую “элегантную”

магчымага выбару. Ён рухомы. Бальшыня з гэтай катэгорыі людзей (акрамя, магчыма, самых маладых) ведаюць маю асобу. Пытаньне толькі ў тым, ці вытрымае гэтая частка беларусаў шквал аднабокай прапаганды супраць мяне. Калі вытрымае, то можна разьлічваць на пераможнае змаганьне з сыстэмай.

Псыхалягічна мне лёгка ўступаць у гэтую барацьбу, бо я заўсёды быў адкрыты й перад сваім народам, і перад ягонымі ворагамі. Адкрытасьць — гэта адзіны правільны прынцып змаганьня з чужароднай уладай, калі апазыцыя (рух) хоча абаперціся на народ. І гэта адзіны шлях, у існуючых варунках, да перамогі. Народ мае просты кірунак, шырокую дарогу і ня ходзіць пакручастымі сьцежкамі. Палітыка складаных задумаў ажыцьцяўляецца толькі тады, калі набываецца ўлада і сіла.

Зыходзячы з прынцыпу адкрытасьці, лічу ня лішнім выказаць свае ацэнкі пэўных зьяваў у цяперашнім беларускім жыцьці, галоўных і негалоўных, але часова актуальных, што трапілі ў поле зроку людзей, незалежна ад іхных патрэбаў, ці, дакладней, насуперак іхным інтарэсам. Засяроджуся, аднак, больш на справах істотных для народнага лёсу нашай Краіны.

### Адносіны да рэжыму

Рэжым улады, які вось ужо адзінаццаць гадоў існуе ў Беларусі, гэта ёсьць рэжым антыбеларускі, чужародны, русыфікатарскі й акупацыйны. Сфармаваўся ён паэтапна, па маскоўскай тэхналёгіі КГБ, да зразуменьня якой не падрыхтаванае было беларускае грамадзтва з прычыны аслабленага імунітэту супраць палі-

Мэта гэтай палітыкі, паводле Масквы: пашырэньне тэрыторыі й інтарэсаў Расеі за кошт Беларусі на захад, да польскай мяжы. Гэта дало-б Расеі вялікія геапалітычныя і эканамічныя перавагі ў дачыненьнях з НАТО і краінамі Эўразьвязу, дазволіла-б разьвіваць далей традыцыйную расейска-нямецкую вялікадзяржаўную зьнешнюю і нутраную палітыку ўплываў і пашырэньня.

Паводле гэтага раскладу, Беларусь павінна быць ліквідаваная як дзяржава і як народ сьвядомы сабе. Стратэгія акупацыйнага рэжыму разьвіваецца па двух накірунках. Першы (галоўны) — падрыў асноваў нацыянальнай культуры й зьнішчэньне беларускай нацыі. Гэтая мэта ажыцьцяўляецца, практычна, адкрыта вось ужо адзінаццаць гадоў. На вачох усіх беларусаў і ўсяго сьвету былі адмененыя, зьняважаныя і забароненыя беларускія дзяржаўныя нацыянальныя сымбалі, практычна, ліквідаваная беларуская школа і беларускае навучаньне, беларускія сродкі масавай інфармацыі, выключана з афіцыйнага ўжытку беларуская мова, развальваюць нацыянальную навуку, душаць нацыянальнае мастацтва і беларускую літаратуру, ліквідуюць беларускія навучальныя ўстановы, абніжаюць узровень адукацыі, афіцыйна фальсыфікуюць нацыянальную гісторыю, перасьледуюць беларускіх дзеячоў, ствараюць штучныя ўмовы для выезду моладзі за мяжу, а працаздольнага насельніцтва — у Расею.

На пачатак лютага 2005 году амаль мільён беларусаў (каля траціны працоўнага насельніцтва) выехалі на працу ў Расею, дзе бальшыня зь іх, ня маючы ніякіх правоў, занятая ў рабскай

начальным крокам у ліквідацыі беларускай дзяржаўнасьці плянуюць зрабіць увядзеньне ў Беларусі расейскага рубля з папярэдняй зьменай Канстытуцыі (прыняцьце так званага “канстытуцыйнага акту” так званай “саюзнай дзяржавы”). Аднак злачынная гэтая справа рухаецца паволі. Бо акупацыйнай уладзе выгадна выкарыстоўваць беларускую дзяржаву як эфэктыўную і танную прыладу ў зьнішчэньні беларускай нацыянальнай культуры. (Імітуецца як-бы яе самазьнішчэньне.)

З іншага боку, існуе беларускі супраціў. Акрамя таго, у Беларусі сутыкнуліся розныя групавыя гэбоўскія інтарэсы. Палітыка расейскага гэбізму ў Беларусі, апрача вялікадзяржаўнага стратэгічнага інтарэсу, мае пад сабою групавы эканамічны інтарэс. Мэркантыльны аспэкт гэбізму — мафійная эканоміка. Абсалютная канцэнтрацыя дзяржаўнага кіраваньня ў руках супэрпартыі й супэрулады КГБ прывяло да прыватызацыі дзяржавы вузкімі групамі гэбоўскай улады, якая валодае вырабленым мэханізмам кантролю над грамадзтвам і над грашовымі плынямі. Карупцыя, хабарніцтва, нажыва за кошт чужой працы й народнага дабра стала нормаю дачыненьняў у гэбісцкім рэжыме.

Напрыклад, кожны прадпрымальнік (бізнэсмэн) у Беларусі плаціць даніну вярхоўнаму начальству. Той, хто ня хоча плаціць, таго разбураюць, судзяць, садзяць альбо зьнішчаюць.

Прыватызацыя дзяржавы выявілася ў падвойным бюджэце і велізарных сродках, накопленых на легендарных рахунках галоўнай службовай асобы. Увесь час мы назіраем актыўнасьць ва-

ва моцнага народнага штуршка. А штуршок станецца, бо гэбоўскі чужы рэжым ёсьць для народу беспэрспэктыўны. Існаваць у Беларусі ён не павінен.

### Адносіны да Расеі

У цяперашняй беларускай палітыцы, а дакладней, у беларускім нацыянальным жыцьці, важнаю умоваю паправы становішча ёсьць зьмяненьне адносінаў да Расеі, прывядзеньне іх у адэкватны стан. Цяпер яны ня тое што неадэкватныя, — яны збочаныя, зьвіхнутыя, і проста абсурдныя. Вобраз гэтых ірацыянальных дачыненьняў ілюструе выезд беларусаў на рабскую працу ў Расею, дзе іх эксплуатуюць, ашукваюць, абкрадаюць, рабуюць, забіваюць, а яны ўсяроўна туды лезуць, упарта і бяздумна, ня робячы ніякіх для сябе высноваў.

Адсутнасьць адчуваньня народнай небясьпекі вынікае з глыбейшых прычынаў і абумоўлена агульным невысокім узроўнем нацыянальнай сьведамасьці, несфармаванасьцю нацыянальнага вопыту. Як пісаў Янка Купала: “і ў думах выхаваны зморных, ня знаюць, дзе пячэ, дзе студзіць.” Але вопыт прыходзіць з часам, і якраз — разам з нацыянальнай асьветай і выхаваньнем.

Беларусам вельмі важна ўсьвядоміць, што агрэсіўная расейская палітыка ў дачыненьні да нашай краіны не зьмянілася за апошнія 200 гадоў (а па вялікаму кошту — за 500). Яна ня зьменіцца ніколі, пакуль будзе існаваць Расея як імпэрская структура, як канглямэрат народаў. Бо імпэрская структура ёсьць падставаю імпэрскай палітыкі й вялікадзяржаўнай псыхалёгіі. Расея ёсьць

Працяг на бачыне 7

 



# "Бадзяўся сярод індэйцаў...", або "Лятарнік", прачытаны па-беларуску

(Радыкальнае літаратуразнаўства)

"Ён здабываў золата ў Аўстраліі, шукаў дыямэнты ў Афрыцы й быў дзяржаўным стралком ва Ўсходняй Індыі. Калі ён завёў у свой час у Каліфорніі ферму, яе зьнішчыла засуха; тады ён пачаў гандляваць зь дзікімі плямёнамі, якія насяляюць Цэнтральную Бразілію, але аднойчы плыт ягоны разьбіўся на рацэ Амазонцы, сам ён, абяззброены, амаль голы, на працягу некалькіх тыдняў блукаў па лясох, харчуючыся дзікімі пладамі, і штохвілінна яму пагражала сустрэча зь дзікімі зьвярамі. Ён адкрыў кузьню ў Арканзасе, але яна згарэла ў час пажару, які зьнішчыў увесь горад. Потым у Скалістых гарах ён трапіў у рукі індэйцаў і толькі цудам быў уратаваны канадыйскімі стралкамі. Тады ён уладкаваўся матросам на карабель, які рабіў рэйсы паміж Багіяй і Бардо, а потым гарпуншчыкам на кітабойны карабель. Абодва караблі пацярпелі крушэньні. Была ў яго фабрыка ў Гаване, але яго абакраў кампан'ён якраз тады, калі ён захварэў "вамітo". І вось ён у Аспінвале - тут, здавалася, павінны былі закончыцца ўсе ягоныя нягоды".

"Бадзяўся сярод індэйцаў", - напісаў пра яго ў "Лісьце Літвоса з Сан-Францыска" 18 сьнежня 1877 году, апублікаваным 12 і 14 студзеня 1878 году ў "Кур'еры Цодзенным", Генрык Сянкевіч. "Гнаны думкаю, што за ім гоняцца і яго перасьледуюць, пасьля ад'езду з Эўропы (здаецца, у 1848 г.) наведаў мыс Добрай Надзеі, Мадагаскар, Аўстралію, Паўднёвую Амэрыку, Цэнтральную і, нарэшце, Злучаныя Штаты", - паведаміў чытачам "Газэты Польскай" 10 лютага 1877 году Юльян Гарайн, які пазнаёміўся зь Сялявам ў Нью-Ёрку. Абедзьве публікацыі былі своеасаблівымі некралёгамі, бо "польскі" выгнаньнік памёр, верагодна, ад перадазіроўкі морфію, а першай пра сьмерць 38-гадовага эмігранта паведаміла газэта "Нью-Ёрк Таймс" 23 лістападу 1876 году (A Drug Clerk's Death).

Нарадзіўся ў 1838 годзе (Б. Стахееў) у Віцебскай губэрні, выхаваны, верагодней за ўсё, у польскай культуры, па невядомай прычыне выехаў за мяжу, дзе, паводле сьведчаньня Ю. Гарайна, страх перад шпегамі (можна зразумець: царскімі) увесь час не даваў яму спакою. Г. Сянкевіч, у якога не было "маніі перасьледаваньня" Сялявы, але штосьці псыхалягічна блізкае, прынамсі ў імкненьні да зьмены месцаў, а таксама схільнасьць перабольшваць і скажаць факты, ужо ў карэспандэнцыі з Сан-Францыска, для якой, верагодна, выкарыстаў артыкул Гарайна, зьмяніў узрост і гэаграфію блуканьняў няшчаснага пакутніка, таму яго выказваньне пра вандроўкі Сялявы з індэйцамі ня можа ўспрымацца з поўным даверам. Атрымаўшы некаторыя дадатковыя зьвесткі пра Сяляву ў Варшаве ад Караля Бені й зьмяніўшы імя прататыпа на "Скавінскага", Сянкевіч пераказаў ягоную гісторыю ў адным з самых славутых сваіх апавяданьняў "Лятарнік" ("На маяку", "The Lighthouse-keeper"), дадаўшы некалькі яскравых, але яўна выдуманых дэталяў, і цалкам перайначыўшы матывацыю ўчынкаў гэроя. Ня бедны і, напэўна, псыхічна неўраўнаважаны чалавек, а паўстанец-рэвалюцыянер і вялікі патрыёт Польшчы, прычына звальненьня якога са службы на маяку каля порту Калон-Аспінваль (Aspinwall) - не "Мурдэліё" ("Мурдэліён") Зыгмунта Качкоўскага, а "Пан Тадэвуш" Міцкевіча, не нянавісьць да "Мурдэліё" і ўсіх польскіх кніг, а высокае патрыятычнае пачуцьцё.

Упершыню апавяданьне "Лятарнік" было надрукаванае ў варшаўскім часапісе "Ніва" ў канцы 1881 году і адразу-ж пачало перакладацца на іншыя мовы ("Заря" (Кіеў), 1881). "Лятарнік" надрукавалі ў беларускім перакладзе ў 1925 годзе ў заходнебеларускім "Грамадзкім голасе", а ў 1955 годзе пад назваю "Вартаўнік маяка" ў выбраных "Апавяданьнях" Г. Сянкевіча, "зьбеларушаных" М. Машарам.

### "Мэдычнае заключэньне"

"Лятарнік" ужо даказаў сваю бессьмяротнасьць - наколькі бессьмяротны фальш.

І ў Беларусі, і ва ўсім былым Савецкім Саюзе, і ў многіх іншых краінах сьвету "Лятарнік" ведаюць як адзін зь лепшых узораў пісьменьніцкага майстэрства ня толькі Г. Сянкевіча, але і ўсёй Польшчы. Адзін літаратуразнаўца называе яго "найцудоўнейшай да сёньняшняга дня навэляй у польскай літаратуры". Другі, характарызуючы апавяданьне, ужыў тэрмін "баварызм", маючы на ўвазе, што Скавінскі - сам Сянкевіч. З улікам таго, што пісьменьнік ужо псэўдонімам "Літвос" сьведчыў пра сваё "літоўскае", а дакладней татарска-беларускае паходжаньне, гэта "праграмнае" апавяданьне, "беларускасьць" яго сюжэту й "скрытай" ідэі ўяўляюць сабою цікавы аб'ект для калялітаратурнага аналізу, які прыводзіць да нечаканых высноваў.

Сянкевіч падмануў сябе і падманвае мільёны сваіх чытачоў. Як-жа становяцца сапраўднымі патрыётамі (ня толькі сапраўднымі палякамі) і як можна падманваць сябе і ўводзіць у зман мільёны людзей? Безумоўна, ня толькі палякі здольныя "перакручваць", ставіць дагары нагамі й выкарыстоўваць на карысьць сваёй "мэгаламаніі нарадовай" самыя розныя факты й акалічнасьці, але менавіта нашы заходнія суседзі робяць гэта так "праўдападобна".

Калі інтэрпрэтаваць Скавінскага-Сяляву як "доктара Джэкіла і містэра Гайда", у сьвятле ўсіх вядомых фактаў, то, перафразуючы адну зь цікавых польскіх ацэнак месца "Лятарніка" ў творчасьці Сянкевіча, можна сказаць, што гэта адзінае месца, дзе "кантравэрсыйная" душа пісьменьніка знайшла сваіх продкаў - беларускіх татараў у асобе паланізаванага беларуса і выявіла сапраўдную прычыну яе "няўрозу".

Літаратура ёсьць літаратура, але калі яна ілжыва інтрэпрэтуе сапраўдныя факты, паўстаюць сумненьні...

Мания преследования / mania przesladowcza / persecution mania прэтэндуе на тое, каб лічыцца беларускай нацыянальнай немаччу – побач з каўтуном.

Беларус, якога ўласная этнічная гісторыя давяла да мэлянхалічнага, безабліčнага стану, з "анархізмам" у душы й чаканьнем непрымянасьцяў з усіх бакоў.

Колькі-ж "палякаў" і "расейцаў" хавалі сваю невыразна-беларускую сутнасьць! Многія зь іх знаходзілі сабе камфортныя нішы, асабліва калі пераконваліся, што польскую або расейскую культуру могуць прыняць як сваю, іншыя-ж - аб гэтым можна толькі здагадвацца, бо мала хто давяраў гэтыя думкі паперы - губляліся "ў гэтым вялікім сьвеце". Можна прывесьці дзесяткі прыкладаў, калі гэтыя людзі станавіліся касмапалітамі, якіх цяпер ня можа па-сапраўднаму "прыгалубіць" ніводная нацыя - як свайго героя. Такі быў Аляксандар Галынскі - "амэрыканскі грамадзянін", сын "паланізавана-русыфікаванага" беларуса з Магілёўшчыны й расейкі, які жыў у Парыжы, Лёндане і Львове, аб'ехаў паўсьвету - і "ўсю" Амэрыку, якую апісаў па-француску, адмаўляючыся і ад польскай, і ад расейскай моваў, як адзін зь вялікіх рэпарцёраў сусьветнага маштабу...

Штосьці заўсёды адрозьнівала паланізаванага і русыфікаванага беларуса ад сапраўдных прадстаўнікоў гэтых народаў. Банальнасьць? Калі не дадаць: там, дзе апошнія ня будуць "капацца" ў сваіх матывах, гэты наш беларус знаходзіцца ў разгубленасьці. І гэтага ня могуць зразумець тыя, хто "робіць" зь беларусаў тыповы эўрапейскі народ, г. зн. разьбеларушвае псыхалягічна і г. д. У той самы час, як "сапраўдны" беларус, дзеля таго, каб пазбавіцца ад пакутлівага дыскамфорту, - гатовы загнаць сябе ў "псыхалягічную рэзэрвацыю" (А. Анціпенка) або пакінуць Радзіму - пакідаючы або не пакідаючы яе...

### Да індэйцаў!

Але лепш зьбегчы - і ўцёкі гэтыя — вядома-ж, ідзя ня новая — на "індэйскую тэрыторыю"!

Нягледзячы на "няроднаснасьць" "вонкавых" культурных традыцый, этнапсыхалягічная блізкасьць беларусаў і індэйцаў відавочная, таму найбольш адпаведнай з пункту гледжаньня арыентацыі для М. Сялявы й падобных да яго беларусаў, якія маглі апынуцца ў Амэрыцы, ня маючы псыхалягічнай апоры ні сярод палякаў, ні сярод расейцаў, ні сярод "літвінаў" і нават беларусаў, схільных да "амэрыканізацыі" жыцьцёвых каштоўнасьцяў, ёсьць фраза (сапраўдны-Ь беларус напісаў "выраз") "бадзяўся сярод індэйцаў".

Яму было добра, безь людзей, на маяку, было добра, калі ён "бадзяўся сярод індэйцаў", але "мурдэліёны" зноў загналі яго ў Нью-Ёрк, прымусілі працаваць у аптэцы, прызвычаілі да наркотыкаў і загубілі. Які тут патрыятызм, якая "Літва! Ты як здароўе..."?! "Манія перасьледаваньня, - пісаў Чэслаў Мілаш у зборніку эсэ "Прыватныя абавязкі" (Парыж, 1972), - змусіла яго да разарваньня стасункаў зь людзьмі, бо ні ў кім ня быў упэўнены. Такім чынам, параноік", і менавіта гэты лёс - паляка, а дакладней паланізаванага беларуса, - ворагамі якога зьяўляюцца "zacni z pozoru rodacy", - "bardzo polski".

Скавінскі быў удзельнікам змаганьня за свабоду і незалежнасьць і міжусобных войнаў у Польшчы, Гішпаніі, Францыі (?), Венгрыі, ЗША. Калі арыентавацца на дату выезду Мечыслава Сялявы з Эўропы, якую дае Ю. Гарайн, то цяжка дапусьціць ягоныя ўласныя палітычныя прычыны: 10-гадовага хлопчыка павінны былі суправаджаць бацькі-"дысыдэнты". У матар'яле Гарайна нічога не гаворыцца пра індэйцаў. Адкуль-жа "бадзяўся..."? Сама верагоднасьць гэтага не выключаецца, бо, згодна з Гарайнам, пабываў і ў Паўднёвай, і ў Цэнтральнай Амэрыцы, а ў ЗША, паводле "Нью-Ёрк Таймс", прыбыў каля 15 гадоў таму. Адна зь дзьвюх вэрсіяў: або Сянкевіч выявіў недапушчальную для рэпарцёра (аўтара "лістоў" у газэту) фантазію, або ён за 10 месяцаў пасьля публікацыі карэспандэнцыі Гарайна атрымаў інфармацыю зь іншых крыніц.

Скептык (то бо аўтар?) бярэ на ўзбраеньне прыклады недакладнасьцяў у Сянкевіча-публіцыста накшталт перайначаньня 38-гадовага ў "старога чалавека" (калі яго не састарыла наркаманія), а верагоднасьць падарожжа па Амазоніі абвяргае аналягічным выпадкам зь беларусам - героем "рамана-былі" Аляксея Карпюка "Вершалінскі рай".

Дзякуючы А. Карпюку стаў шырока вядомы лёс Клемуса Кавальчука з Алекшыц (Бераставіцкі раён), які быццам-бы батрачыў з індэйцамі ў каляніста-немца ў Аргэнтыне, а потым удзельнічаў у абвешчаным у Бразыліі конкурсе на пешы пераход па Амазоніі, атрымаў як пераможца прэмію ў 10 тысяч далараў і, хаця моцна захварэў, вярнуўся ў родную вёску, дзе адкрыў "рэстаран", завёў млын, стаў "таўсцёрны, як вялізная бочка" (ад амазонскай вады), ажаніўся на 18-гадовай прыгажуні й "надта любіў пагаварыць".

Сам А. Карпюк (ліст ад 8 чэрвеня 1988 году) піша пра свае крыніцы: "Пра Клемуса Кавальчука з Алексіч (40 км ад Гродна) я давядаўся ад ягоных землякоў. 20 гадоў таму ўзяў запіс гэтую з блакнота ў твор. У блакнот-жа яго занатаваў недзе ў 50-х гадах. Цяпер удакладніць, мабыць, няма магчымасьці - памерлі ўсе тыя, хто яго ведаў, а сам Клемус памёр у 1939 годзе." Але краязнаўца Алесь Белакоз, паводле нейкіх сваіх абгрунтаваных меркаваньняў, абвяргае магчымасьць падарожжа Кавальчука праз Амазонію.

Хаця "беларускіх канкістадораў", у адрозненьне ад расейскіх *і польскіх, няма* (В. Кіпель толькі шукае беларусаў у "калумбаўскіх атрадах"), але ад схільнасьці да фальсыфікацый і прыхарошваньня, "мэгаламаніі", "белетрызацыі" "на сваю карысьць" не застрахаваны ніводны народ.

З дапамогаю "белетрызаванай хлусьні" магчыма вывесьці са схаванага ў сабе псыхапата й наркамана такія рысы, як "цярплівасьць індэйца і магутная, спакойная сіла супраціўленьня, уласьцівая толькі сумленным і мужным сэрцам", але *лепш пазнаёміцца з рэальнымі лёсамі й* творамі такіх сапраўдных беларусаў-"касмапалітаў" (калі не сказаць "касмістаў"), як Аляксандар Галынскі й Мікалай Судзілоўскі-Русель. Менавіта іх можна было сустрэць у такіх аддаленых адно ад аднаго месцах, як у цытаваным напачатку ўрыўку з "Вартаўніка...", менавіта яны маглі выклікаць нянавісьць і ў правых "барацьбітоў за незалежнасьць", і ў тых, хто апошніх падаўляў.

Жыцьцё сярод індэйцаў Б. Гарадынскага, паездкі да іх такіх асобаў, як Ю. Нямцэвіч і І. Дамейка, кантакты зь імі навукоўцаў (К. Ельскі), а ў больш блізкі да нас час - "прыняцьце ў племя" (Нік Трусэвіч у Арызоне) і беларуска-індэйскія шлюбы (найперш у Балівіі й Канадзе), складаюць асноўную частку непасрэдных

**Заканчэньне з бачыне 8**

 

# Прысьцёбнутыя да рэжыму

Прапагандысцкі ролік, што нядаўна пракруціла БТ, нагадаў пра абвешчаную Лукашэнкам напярэдадні прэзыдэнцкіх выбараў 1994 году ягоную прэзыдэнцкую канцэпцыю — "кіравацца здаровым сэнсам".

Уяўленьні пра здаровы сэнс, як вядома, у кожнага свае, але што абсалютова відавочна не ўваходзіць у азначанае панядцце лукашэнкаўскай каманды – дык гэта ўсё беларускае. Як шалёныя ваўкі, па камандзе маскоўскага КГБ накінуліся лукашэнкаўскія "прагматыкі" на беларушчыну — рвалі беларускі сьцяг, зьневажалі беларускую мову, вынішчалі беларускую адукацыю... Праз пэўны час Масква выканаўцаў бруднай работы стала пераводзіць у ствараемую ёю "апазыцыю". Так "спэцпрадстаўнік прэзыдэнта ў Вярхоўным Савеце" Анатоль Лябедзька пасьля ўзьведзенай пад ягоным куратарствам "вертыкалі ўлады" быў накіраваны ў АГП, кіраўнік лукашэнкаўскага выбарчага штабу і адміністрацыі Леанід Сініцын — у рэзэрв "кандыдатаў у прэзыдэнты" і г. д. Тэндэнцыя была настолькі імклівай і адпаведна вызначанай, што нехта з журналістаў пажартаваў — "калі так пойдзе, то скора і Ваня Ціцянкоў стане апазыцыянэрам". І сапраўды, Ціцянкоў пабег ад свайго гаспадара ў эміграцыю, нават устаў у позу змагара супраць рэжыму. Гэта быў апафэёз!

"Апазыцыянэры" з лукашэнкаскага прызыву добра папрацавалі на боса падчас прэзыдэнцкай кампаніі 2001 году. Выставілі супраць яго поўную электаральную нікчэмнасьць – Ганчарыка, забясьпечылі патрону "элегантную перамогу". Масква так была задаволеная сваёй "апазыцыяй", што самазаспакоілася і празявала момант, калі беларусы нешта зразумелі наконт маскоўскага паходжаньня як рэжыма, так і "апазыцыі". Калі-ж, урэшце, Масква больш-менш уцяміла , што беларусы ня хочуць зьлівацца ў адзіную дзяржаву з РФ і зусім ня маюць піэтэту да Расеі, то тут, як кажуць , ужо было не да "канстытуцыйнага акту". Масква спадзявалася захаваць хаця-б на гэтым этапе свайго галоўнага агента і статус-кво ў Беларусі. Таму так пнулася, губляючы ўсе прыкметы канспірыцыі "апазыцыя", зазываючы беларусаў на лукашэнкаўскі рэфэрэндум 17 кастрычніка 2004 году. Народ убачыў здрадніцкую, прамаскоўскую сутнасьць усіх гэтых "пяцёрак плюс". Выйсця не было, Масква вымушана спаліла гэтую "апазыцыю".

Пасьля рэфэрэндуму Крамлю тэрмінова спатрэбіліся сьвежыя "апазыцыйныя" сілы. Антыбеларускаму рэжыму патрэбная раскрутка "апазыцыянэраў" з лукашэнкаўскага прызыву, тых, хто ўжо праявіў сябе ў справе зьнішчэньня асноў Беларускай Дзяржавы і ня быў "спалены" ў нетрах псэўдаапазыцыі.

Днямі некаторыя незалежныя СМІ выбухнулі матар'яламі прысьвечанымі прышэсьцю чарговага "апазыцыянэра", былому рэктару БДУ Аляксандру Казуліну. Трэба паспачуваць экс-рэктару, бо ня так-та лёгка і апазыцыянэрам стаць і боса не пакрыўдзіць. Вось і кажа: "Корань зла – у грамадзтве, у сьпячай грамадзянскай пазыцыі кожнага з нас... Як-бы мы не гаварылі, але Лукашэнка зрабіў шмат карыснага для нашай краіны." (Народная Воля, №35) Карацей кажучы – харошы прэзыдэнт і кепскі народ.

Добра-б было, каб сп. Казулін распавёў беларусам пра тое добрае, што зрабіў для іх маскоўскі стаўленік, так-бы мовіць, вуснамі апазыцыянэра, а то мы ўсё больш пра гэтыя даброты чуем ад БТ. Цікава было-б адчуць розьніцу.

А вось у інтэрв'ю "Комсомольской правде в Белоруссии" (№32) на пытаньне: "А белорусскай мовай валодаеце?", Казулін адказаў: "Не, але абяцаю вывучыць".

Гэта-ж як трэба ставіцца да беларусаў, каб будучы намесьнікам міністра адукацыі, рэктарам галоўнай вышэйшай навучальнай установы краіны, не папурупіцца вывучыць мову народу? А можа гэта знак маскоўскім працадаўцам, маўляў— глядзіце які я! Ненавіджу беларусаў ня меньш за Лукашэнку!

Але сп. Казулін ня быў толькі пасыўным назіральнікам за ганебным антыбеларускім шаленствам, што адбываецца ў краіне пачынаючы з рэфэрэндуму 1995 году (калі рэжым маштабна сфальшаваў вынікі й забараніў беларускія нацыянальна-дзяржаўныя сімбалі ды надаў статус дзяржаўнай чужой нам расейскай мове, загнаўшы беларушчыну ў рэзэрвацыю). Казулін быў актыўным выканаўцам антыбеларускай палітыкі, пра гэта ёсьць шмат сьведчаньняў. Таму у згаданым інтэрв'ю "Народнай волі" спагадлівы інтэрв'юер ставіць пытаньне такім чынам: "Вас не турбуе рэфэрэндум 1996 году, прэзыдэнцкія выбары 2001 году?"

Ня робіцца нават узгадкі пра антыканстытуцыйную, ганебную акцыю праведзеную лукашэнкаўскім прызывам, у тым ліку і спадаром Казуліным у 1995 годзе па загаду Масквы. Бо любая ўзгадка пра гэта можа выклікаць у чытачоў напамін не толькі пра сутнасьць тагачасных падзеяў, але і асацыяцыі з пэўнымі імёнамі. Выглядае такім чынам, што ўзгадка пра 1995 год сёньня стала табу ў асяродку "апазыцыі" маскоўскай гадоўлі – пра гэтае сьведчаць шматлікія іхныя інтэрв'ю і артыкулы. Але марная іхная маскоўская справа, шыла ў мяшку ня ўтоіш. А падзеі сьведчаць – набліжаецца час беларускай улады.

***Юры БЕЛЕНЬКІ***

## Роздум...

*Заканчэньне з бач. 5*

закладніцай самой сябе. Нацыянальная ідэі (*а значыць, дэмакратычныя, бо тут зьліжанасьць*) у Расеі з гэтай прычыны проста не ўзьнікаюць. Расея мусіць толькі разваліцца як імпэрыя. (Гэта трэба разумець.) І, як ня дзіўна, у развале Расеі як імпэрскай структуры ёсьць паратунак для самых расейцаў, выхад зь вечнай тыраніі й вечнага рабства на нацыянальны ўзровень разьвіцьця.

У беларускай палітыцы трэба будзе адзначыць найперш тры галоўныя аспэкты дачыненьняў з Расеяй. Першы аспэкт – пэрманэнтнасьць расейскай небясьпекі для Беларусі. Другі – забесьпячэньне беларускіх нацыянальных інтарэсаў і ўлічваньне жыцьцёвых інтарэсаў Расеі. Трэці аспэкт – прадбачваньне (трыманьне на ўвазе) магчымасьці распаду расейскай вялікадзяржаўнасьці.

Асэнсаваньне пазыцыі небясьпекі абавязвае нас дзяржаўна ўпарадкаваць беларуска-расейскую мяжу і мытную службу, абараніць інтарэсы дзяржавы й грамадзянаў Беларусі й адначасна гарантаваць свабоду чалавечых кантактаў (вольны бязьвізавы статус, напрыклад, для людзей, павязаных сваяцтвам, пэнсіянэрам і г. д.).

Забесьпячэньне беларускіх нацыянальных інтарэсаў перад палітычнай агрэсіяй з усходу будзе абавязваць нас зьнізіць долю гандлёвага ўзаемаабмену з Расеяй і дыфэрэнтаваць гэтую долю па катэгорыях тавараў, каб запабегчы палітычнаму шантажу. У гэтым сэнсе існуе ўжо вельмі станоўчы вопыт Эстоніі (*10 адсоткаў таварнага абмену з Расеяй*) і адмоўная практыка Латвіі (якая ад пачатку не зрабіла таго, што зрабіла Эстонія).

Маючы перад сабою ўвесь сьвет, Беларусь не павінна, насуперак беларускім інтарэсам, прывязвацца толькі да расейскага рынку (як гэта зроблена цяпер – больш за 50 адсоткаў). Для рэалізацыі шырокіх магчымасьцяў Беларусі неабходна ажыцьцявіць палітычныя і дэмакратычныя перамены ў краіне і не дапусьціць карупцыі ў дзяржаўным апараце.

Мы вымушаныя будзем вызначыць сабе баланс жыцьцёвых інтарэсаў у дачыненьнях Беларусі з Расеяй і прымаць гэта пад увагу. Мы павінны будзем таксама ўлічваць інтарэсы ня толькі Расеі, але і заходніх краінаў у іхных дачыненьнях з Расеяй, мець на ўвазе адпаведны ўзровень міжнародных эканамічных дачыненьняў. Мы будзем выходзіць з ізаляцыі й з савецкага гета.

Сытуацыя з расейскім транзытам і пастаўкай энэрганосьбітаў павінна быць вырашана на рынкавай аснове. Гэта непазьбежна. І гэта якраз паспрыяе хутчэйшым рэформам у Беларусі, хутчэйшаму стварэньню рабочых месцаў, вяртаньню беларускіх працаўнікоў з наёмнага рабства ў Расеі.

### Адносіны да Эўразьвязу і НАТО

Беларусі варта было-б уступіць у НАТО. Але геапалітычная сытуацыя, якая існуе, паказвае, што ў бліжэйшы час мы можам разьлічваць толькі што хіба на праграму "Партнёрства дзеля НАТО". Астатняе будзе шмат у чым залежыць ад нас. Беларусам неабходна будзе ўзмоцнена працаваць дзеля ўступленьня ў Эўра-Атлянтычны Саюз.

Пытаньне з Эўразьвязам мае больш складаныя дачыненьні. І размова ў цэлым тут заўчасная. Спатрэбіцца мінімум 15-20 гадоў, пры ўмове, што за гэты час Беларусь моцна стане на свае нацыянальныя і эканамічныя ногі. На каленях у Эўразьвяз ісьці нельга. Тым больш, што Беларусь шмат у чым ня можа прыняць ідэйна-культурную (ці, дакладней, антыкультурную) бязбожную канцэпцыю Эўразьвязу. Трэба быць гатовым да новай геапалітычнай сытуацыі ў Эўропе праз 20 гадоў. І таму цяпер неабходна будзе вельмі мацаваць нашу нацыянальную дзяржаву, беларускую культуру і беларускую эканоміку. Беларусь павінна стаяць тварам да Эўропы, супрацоўнічаць з суседзямі й краінамі Эўразьвязу – прыхільнікамі Эўропы айчынаў.

### Найважнейшыя палітычныя каштоўнасьці

Як выразна засьведчыла гісторыя ўтварэньня нацыянальных дзяржаваў краінаў Цэнтральнай і Усходняй Эўропы, якія доўгі час знаходзіліся пад прыгнётам трох імпэрыяў, найважнейшай, першаснай і абсалютнай каштоўнасьцю нацыі й дзяржавы зьяўляецца нацыянальная мова. Без абароны мовы, без яе культурнага і дзяржаўнага сьцьвярджэньня, нацыя ня можа скансалідавацца. Адпаведна не ствараецца грунт для арганізацыі нацыянальнай дзяржавы й разьвіцьця нацыянальнай культуры; дзяржава ня ў стане ўмацавацца.

Нацыянальная мова – гэта першаснае пытаньне, пасьля вырашэньня якога пачынаюць нармальна "працаваць" усе аспэкты дзяржаўнага жыцьця, ад культуры да эканомікі.

Імпэрыя, асабліва тая, што практыкавала асыміляцыйную палітыку, этнацыд і генацыд, найперш старалася ліквідаваць нацыянальную мову. Ідэалёгія і палітыка імпэрыі прыдумвала квазі-ідэалягічнае абгрунтаваньне для забароны й зьнішчэньня чужой мовы, імкнулася масава стварыць перакананых носьбітаў імпэрскай мовы.

Калі імпэрыі ўдавалася ліквідаваць мову народа, тады ягоны этнас гінуў, асобная нацыя не ўзьнікала. Калі народ захоўваў сваю мову – ён разьвіваўся далей, здольны быў стварыць нацыянальную дзяржаву.

Гэтыя простыя ісьціны трэба нагадаць якраз цяпер, прымаючы пад увагу палітыку этнацыду і лінгвацыду, якую праводзіць вось ужо адзінаццаць гадоў прамаскоўскі акупацыйны рэжым у Беларусі.

Побач з абаронаю незалежнасьці, для беларусаў цяпер няма больш важнага жыцьцёвага пытаньня, больш галоўнай задачы нацыянальнага і дзяржаўнага існаваньня, чым пытаньне абароны, зьберажэньня, распаўсюджваньня і дзяржаўнага сьцьвярджэньня сваёй беларускай мовы.

Гэта клопат нумар адзін, без заспакаеньня якога ня будуць вырашаныя ніякія іншыя пытаньні беларускага нацыянальнага дзяржаўнага жыцьця (у тым ліку і абароны незалежнасьці).

Становішча з моваю вымагае абавязковай нацыянальнай асьветы. Цяпер пра гэта мусяць рупіцца нацыянальныя арганізацыі, асьветнікі, энтузіясты, усе адказныя і адукаваныя беларусы. Потым (пасьля ліквідацыі антыбеларускага рэжыму) для нармалізацыі становішча вымагаецца асьветніцкая дзяржаўная палітыка.

Другою найважнейшаю каштоўнасьцю беларускай нацыі зьяўляецца нацыянальная беларуская дзяржава. У разьвіцьці й умацаваньні беларускай дзяржавы ў цяперашнім часе я прапанаваў бы прытрымлівацца чатырох галоўных прыярытэтаў.

Першы – гэта абсалютны прыярытэт нацыянальнай адукацыі й навучаньня маладога пакаленьня. У сыстэму навучаньня мусяць быць выдаткаваныя найбольшыя і прыярытэтныя сродкі. Мы мусім стварыць і забясьпечыць умовы для атрыманьня нацыянальнай адукацыі на вышэйшым узроўні сучасных дасягненьняў цывілізацыі. У высокаадукаваных беларусах – магутная будучыня беларускай дзяржавы.

Другім беларускім прыярытэтам павінна стаць зямля. Неабходна вырашыць пытаньне з уласнасьцю так, каб вярнуць беларускага земляроба на зямлю, зрабіць яго зацікаўленым уласьнікам, прадугледзець узровень рынку і збыту ягонай прадукцыі ў Беларусі, даць стымул да адраджэньня беларускай вёскі.

Трэцці прыярытэт – сыстэма нацыянальнай эканомікі, абапертая на рынкавыя дачыненьні. Арыентацыя на ўкараненьне і разьвіцьцё перадавых тэхналёгіяў.

Чацьвёртым прыярытэтам павінны стаць фундамэнтальная навука і культура. Нацыя павінна дбаць пра сваю творчую і забяспечыць сабе (сваім грамадзянам) якасна высокі ўзровень існаваньня.

Нарэшце, унівэрсальнаю і абсалютною каштоўнасьцю для беларусаў зьяўляюцца яны самыя, сам беларускі народ. Палітыка беларускай дзяржавы, дачыненьні працы, уласнасьці, адукацыя, ідэалёгія і асьвета павінны спрыяць таму, каб беларус навучыўся любіць сябе, любіць сваё, беларускае, лепшае і народнае. Дзяржаўныя інстытуты мусяць спрыяць таму, каб умацавалася самапавага і пачуцьцё чалавечай годнасьці беларуса, гонар за прыналежнасьць да сваёй здольнай, працавітай і разумнай нацыі.

# З гісторыі Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня

**Публікуем чарговы фрагмэнт кнігі Зьмітра Саўкі “Пяцьдзясят гадоў БАЗА (1949–1999)”**

**У артыкуле захаваны правапіс аўтара.**

## БАЗА дэманструе

Са сьмерцю Сталіна, з прыходам да ўлады Хрушчова й, як вынік, пацяпленьнем савецка-амэрыканскіх стасункаў зьмянілася й агульнапалітычная сытуацыя. Савецкія лідэры пачалі наведваць ЗША, найперш Нью Ёрк, дзе месьціцца штаб-кватэра Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў.

Першы візыт Хрушчова адбыўся ў верасьні 1959 году. 17 і 18 верасьня базаўцы бралі ўдзел у дэманстрацыях пратэсту, ладжаных эміграцыямі паняволеных народаў Сярэдняй і Усходняй Эўропы, супольна з амэрыканскімі антыкамуністычнымі арганізацыямі. Увечары 17 верасьня Эканамічны Клюб Нью Ёрку ладзіў банкет у гонар «савецкага гала́вы» ў гатэлі «Waldorf»; з вокнаў гатэльнага рэстарана ён мог бачыць плякаты: «Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне асуджае прыезд панявольніка ў ЗША», «Хрушчоў! Куды ты падзеў 5 мільёнаў беларусаў?», «Хрушчоў, нашто ты парабіў зь беларускіх цэркваў клюбы?»*

Але асабліва шумны быў візыт савецкае дэлегацыі на чале з Хрушчовам на XV сэсію Генэральнай Асамблеі ААН 19 верасьня — 14 кастрычніка 1960 г. У склад агульнай савецкай дэлегацыі ўваходзілі й “нацыянальныя” дэлегацыі БССР і УССР — як “правадзейных сябраў ААН” — на чале з Кірылам Мазуравым і Міколам Падгорным.

Беспрэцэдэнтная кампанія асьвятленьня візыту разгарнулася на старонках савецкага друку: ці не палова зьместу штодзённых газэтаў наўпрост ці ўскосна прысьвячалася гэтай падзеі. “Цуд вялікае савецкае тэхнікі” — турбаэлектраплаў “Балтыка”, несучы на сваім беласьнежным борце савецкую дэлегацыю, толькі набліжаўся да берагоў Амэрыкі, а пісьменьнік Павел Кавалёў на старонках “Звязды” (11 верасьня) у нататцы «У добры час» пісаў: «Жадаем поспехаў і нашай беларускай дэлегацыі на чале з К. Т. Мазуравым», калі ж кіраўнік БССР выступіў на адным з паседжаньняў сэсіі, муза паэта Пятра Прыходзькі адгукнулася вершаванымі радкамі:

*Я ж здалёк чую роднай*
*рэспублікі голас:*
*Беларусь у Нью Ёрку гаворыць мая.*

Апроч тав. Мазурава, у склад беларускай дэлегацыі ўваходзілі 16 чалавек, у тым ліку міністар замежных справаў Кузьма Кісялёў і паэт Максім Танк**.

Трэба адзначыць, што, асьвятляючы ўдзел дэлегацыі БССР у працы ААН, савецкая прапаганда рэдка калі гэтак настойліва, нават знарочыста падкрэсьлівала «самастойны характар» дзеяньняў БССР, падаючы Савецкую Беларусь як рэальны суб'ект сусьветнае палітыкі.

Відаць, такім натужным спробам выставіць БССР сувэрэнную пэўным чынам паспрыяла пазыцыя эміграцыі. Беларуская грамада ЗША не магла прапусьціць такой выключнай магчымасьці прыцягнуць увагу амэрыканскага грамадзтва й сусьветнае супольнасьці да праблемы Беларусі: візыт Хрышчова—Мазурава—Падгорнага ў сонме кіраўнікоў "краін сацыялістычнага лягеру" (Баўгарыі, Вугоршчыны, Румыніі, Польшчы) асьвятлялі тысячы журналістаў, “жывыя ўвасабленьні Саветаў” не пакідалі першых палосаў найбуйнейшых газэтаў і тэлеканалаў, іхныя галасы гучалі ў радыёэтэры, “савецкая прысутнасьць” у Амэрыцы абмяркоўвалася ледзь ня ў кожнай амэрыканскай сям'і...

Як вядома, савецкая дэлегацыя разьмясьцілася ў будынку Сталага Прастаўніцтва СССР пры ААН на скрыжаваньні 68 Усходняй вуліцы й Парк Авэню. Цягам усяго візыту ля Прадстаўніцтва знаходзіліся сотні людзей: рэпартэры, разявакі й, вядома, пікетоўцы — эмігранты й амэрыканцы.

Базаўцы далучыліся да гэтых дзейных пратэстаў: яшчэ да візыту Хрушчова Галоўная Управа ўдзельнічала ў падрыхтоўцы ангельскамоўнае брашуры «Злачынствы Хрушчова, частка 6-я», а ўжо на момант форуму ААН выдала адмысловую ўлётку па-беларуску й па-ангельску: “My, Bieiarusy... pratestujem supraж prysutnasci u New Yorku Kiryiy Mazurava”***, якую раздавалі перад будынкам Прадстаўніцтва.

Савецкія прапагандыстыя ўсяляк стараліся праігнараваць пікетоўцаў, а калі не ўдавалася абмінуць тэмы пратэстаў — то намагаліся здыскрэдытаваць удзельнікаў пікетаў. Вось сцэна аднаго з сутыкненьняў у інтэрпрэтацыі афіцыёзнага публіцыста:

З'яўляецца адзін з платных крыкуноў, нікчэмныя кучкі якіх зьбіраюцца на прылеглых вуліцах, каб выкрыкнуць некалькі варожых Савецкаму Саюзу фраз і, атрымаўшы долары, што належаць за гэтую няўдзячную работу, разысьціся. Пікетчык, аб якім мы ўпамянулі, за час гутаркі М. С. Хрушчова з журналістамі праехалі міма будынка нашага прадстаўніцтва сама меней разоў 20. Сваёй жвавасьцю, як відаць, ён спрабаваў кампэнсаваць адсутнасьць аднадумцаў. Як відаць, заўважыўшы яго, адзін з карэспандэнтаў задае пытаньне:

— Як Вы адносіцеся да пікетаў?

— Дурная, неразумная задума, — адказвае Мікіта Сяргеевіч («Звязда», 21 верасьня).

Не заціхала гэтая тэма й у прадмесьцевай рэзыдэнцыі СССР у Ґлэн Коў (Лонґ Айлэнд):

У гэты час пад'яжджаюць машыны, на якіх прыехалі ў Ґлэн Коў Н. В. Падгорны і К. Т. Мазураў. Зьвяртаючыся да карэспандэнтаў Мікіта Сяргеевіч гаворыць:

— Вось прыехала падмацаваньне ў выглядзе прадстаўнікоў «заняволеных» Украіны і Беларусі. Паглядзіце, якія яны «заняволеныя»! («Звязда», 27 верасьня).

Алла Орса — у тыя гады маладая, прывабная дзеўчына, яшчэ postgraduater (асьпірантка), пазнаёмілася з маладым пэрспэктыўным навукоўцам Фрэнкам Рамана. Малады чалавек прапанаваў сустрэцца.

— Добра, — згадзілася Алла, — на дэманстрацыі, — і назвала час і месца.

Поўны радасных мрояў, Фрэнк прыляцеў на спатканьне, але можна ўявіць ягонае зьдзіўленьне, калі «дэманстрацыя» аказалася не дэманстрацыяў модаў ці прычасаньняў, а... палітычнай маніфэстацыяй. Зьбянтэжанаму маладзёну Вітаўт Кіпель сунуў у рукі транспарант супраць акупацыі Беларусі й... гэтак Фрэнк Рамана, трапіўшы пад чары красуні Аллы, зьвязаў сваю жыццё зь беларусамі й Беларусьсю, у якой ніколі ня быў.




***Прадстаўнікі Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня сярод дэманстрантаў на Тыдні Паняволеных Народаў у 1967 годзе.***

* *Дарэчы, праз тры месцы (17 сьнежня) у Вашынґтоне Камітэт Неамэрыканскае дзейнасьці (Committee of un-American activities) выдаў брашуру «Злачынствы Хрушчова» (The Crimes of Khrushchev), у якой Вітаўт Тумаш, Кастусь Мярляк і Антон Шукелойць выказваліся пра камуністычную агрэсію й закідалі хрушчоўскаму рэжыму вывазы беларускае моладзі на цаліну.*

** *Будучы народны паэт Беларусі ў суаўтарстве зь Якубам Качаном зьмясьціў у цэнтральных газэтах БССР сваю рэляцыю пра візыт (у «Звяздзе» за 20 верасьня — артыкул «Карабель міру», у «Советской Белоруссии» а той жа дзень той самы тэкст чамусьці меў іншую назву — «Исторический рейс”). На наступны год, відаць за годную рэпрэзэнтацыю «незалежнае» Савецкае Беларусі на сэсіі ААН, М. Танка прымаюць у «кандыдаты ў члены ЦК Кампартыі Беларусі».*

****Зора й Вітаўт Кіпелі. Беларускі й беларусаведны друк на Захадзе. Нью Ёрк—Менск, 2003; Бацькаўшчына. №523. 1960. 9 кастрычніка.*

## Сярод індэйцаў

***Заканчэньне з бачыны 6***

кантактаў паміж выхадцамі зь Беларусі й індэйцамі. "Палякі" старых часоў, як і некаторыя падобныя да іх з "расейскага" боку, не ўспрымаюцца як удзельнікі ўласна беларуска-індэйскіх сувязяў. Штосьці "беларускае" безумоўна прысутнічала ў іх, але вызначальнымі былі польскія і расейскія арыентацыі, прыналежнасьць да народаў, якія здолелі загракамэндаваць сябе каланізатарамі й у Эўропе, і ў Амэрыцы. "Новыя"-ж беларусы, што параўнальна нядаўна ўступілі ў шчыльны кантакт з карэннымі жыхарамі абедзьвюх Амэрыкаў, дэманструюць традыцыйную беларускую сьціпласьць. Ці могуць мецць посьпех пошукі сапраўды беларускага піянэра на Дзікім Захадзе? Адзіная асоба, якая на сучасным этапе прэтэндуе на вобраз беларускага героя "апошняй мяжы", хаця і паланізаванага, але даволі беларускага па духу "чалавека паміж сьветамі і нідзе", - Мечыслаў Сялява.

### Вяртаньне

Сапраўдная ягоная гісторыя чакае больш уніклівага дасьледчыка і новага белетрызатара. Беларускага. У лісьце да сябра, знойдзеным у кішэні пасьля сьмерці, Мечыслаў Сялява пісаў: "Тут я ня маю ніякіх шанцаў. [...] Я хацеў-бы вярнуцца ва ўласную краіну і там скончыць свае дні". Якую "ўласную краіну" - край ці радзіму (wlasny kraj - зваротны пераклад з ангельскай на польскую мову?) меў на ўвазе вандроўнік? Падзагаловак у "Нью-Ёрк Таймс" гучаў: "Загадкавае атручэньне знойдзенага ў ложку фармацэўта, які хацеў вярнуцца ў Польшчу". У тэксьце: "Сялява паходзіў з Польшчы ... і размаўляў на некалькіх мовах". Клемуса Кавальчука, аднаго з 37 сарвігаловаў, якія стартавалі на "пакарэньне джунгляў", запісалі ўкраінцам, бо карэспандэнты "не знайшлі ў слоўніку" слова "беларус". Газэтчыкі зь "Нью-Ёрк Таймс" не "знайшлі ў слоўніку" і ў атласе назвы "Беларусь", таму напісалі "Польшча", хаця "ўласнай краінай" наш герой (у будучым рамане) мог называць сваю зямлю на тэрыторыі рэзэрвацыі Лак-дзю-Фламбо (Lac du Flambeau), Віскансін.

***Алесь СІМАКОЎ,***
***выканаўчы сакратар Беларуска-індэйскага таварыства***
***а/с 114, 246049 Гомель, Беларусь***




# Весткі й Паведамленьні

нью ёркаўскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня

Viestki j Paviedamlenni

Belarusan American Association, Inc.

166-34 Gothic Drive, Jamaica, N.Y. 11432 Сусьветнае сеціва: www.baza-belarus.org №4 (471)


# Сакавіцкі сход аддзелу БАЗА ў Нью Ёрку

У нядзелю 6 сакавіка прайшоў чарговы сход Нью Ёркаўскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня. На сходзе прысутнічаў госьць зь Беларусі, старшыня Партыі БНФ і су-старшыня кааліцыі "Пяцёрка Плюс" сп. Вінцук Вячорка. Ён і атрымаў слова на пачатку сходу. Сп. Вячорка ад імя свае партыі прывітаў прысутных у залі, павіншаваў з надыходзячым Днём Волі — 87-мі ўгодкамі абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. "Я перакананы, — сказаў сп. Вячорка — што калі беларусы разам, дык Беларусь жыве". Далей прамоўца адзначыў, што насуперак своеасаблівай "традыцыі" наракаць на абставіны, ня ўсё ў Беларусі кепска. Пры ад'ездзе моцна пятрасалі, але калі адыйшоў агент у цывільным, беларускія мытнікі спыталі: "Ну што, прагонім ГЭТАГА?" Цікава, што калі ў Менску падчас перавыбарчай агітацыі Партыі БНФ два паголеныя хуліганы вырвалі бел-чырвона-белы сьцяг і пабеглі, дык міліцыянты дагналі іх і аддалі сьцяг назад.

Па апытаньні службы Гэлапа на пытаньне "Ці пагадзіліся-б Вы ўвасьці ў склад Расейскай фэдэрацыі" толькі 7% беларусаў адказалі "так". Гэта паказвае, што насуперак усяму рух да незалежасьці аб'ектыўна працягваецца нават ва ўмовах дыктатуры. Але якім зьместам напаўняецца паняцьце дзяржаўнасьці Беларусі? Гэта сумесь савецкіх, папулісцкіх, панславісцкіх ідэяў. На шчасьце, бальшыня людзей успрымаюць рэжым скептычна. Небясьпечна тое, што падрастаючае пакаленьне мае шмат скіраванасьці на кан'юнктуру, і гэта праяўляецца, скажам, у новай генэрацыі студэнтаў. Вельмі важную справу зрабіла нам Украіна. Яна паказала, што імкненьне да цывілізаванага нармальнага жыцьця гэта якасьць не толькі палякаў, латышоў, літоўцаў, што успрымаліся нібы "не такія як мы". Украінцаў цяжка прызнаць "не такімі", яны якраз успрымаюцца беларускім грамадзтвам "такімі, як мы". І гэта вельмі непакоіць Лукашэнку. Ён ужо аддаў загад аб спыненьні рэтрансляцыяў на Беларусь украінскіх перадачаў. Падчас апошніх выбараў у Беларусі шанцаў на перамогу было няшмат, але намаганьні БНФ ды іншых апазыцыйных партыяў не былі дарэмнымі. Людзі бачылі, што апазыцыя ёсьць, яна дзейнічае. І галоўнае пытаньне — хто выступіць апанэнтам Лукашэнкі на прэзыдэнцкіх выбарах. Дзеля гэтага важнай ёсьць дамова пра адзінага канддыдата, і працэдура ягонага выбару. Супольная плятформа аб'яднанай апазыцыі простая. Не толькі адабраць уладу ад дыктатара, але зрабіць парытэт уладаў – парляменцкай, прэзыдэнцкай, судовай, шанаваць правы чалавека. Пра астатняе будзем дамаўляцца ў парляманце дэмакратычнай дзяржавы, і кожная партыя ў кааліцыі застаецца пры сваёй праграме. Задача і стратэгія — ня толькі й ня столькі выбары, як спроба дайсьці да кожнага чалавека, каб знайсьці ўсіх, хто можа супрацівіцца дыктатуры, разагрэць і павесьці такіх людзей.

Кааліцыю дэмсілаў улада імкнецца расколоць, будуць свае "Януковічы"— стаўленікі ўлады. Але жаданьне працаваць разам ёсьць, і ёсьць моцная патрэба ў гэтым. Дэлегацыя Пяцёркі Плюс праз тыдзень будзе ў Вашынгтоне, каб данесьці нашыя погляды да самай вялікай краіны дэмакратычнага сьвету. "Так што будзьма аптымістамі, беларуская справа слушная, і яна пераможа".

Затым прамоўца адказаў на пытаньні прысутных, якія былі часам вострымі.

Наступным выступіў старшыня Беларускага Народнага Фронту сп. Зянон Пазьняк. Ён прывітаў прысутных і адзначыў, што ягоная пазыцыя адрозьніваецца ад пазыцыі сп. Вячоркі. У ацэнцы сытуацыі ў Беларусі сп. Пазьняк адзначыў, што яна надзвычай складаная і небясьпечная. "Цяпер нават горш, чым у савецкі час." І зусім пагоршала сытуацыя з дэмакратычнымі партыямі. Ідзе наступ улады на малы бізнэс, людзям няма куды дзявацца, шляхі на Захад неўзабаве будуць перакрытыя, і людзям пакінуць толькі адзін шлях — у Маскву, у Расею. Беларусь зробіцца крыніцаю танных рабочых рук для Ўсходу. Украінцы падняліся за Ўкраіну, за нацыянальныя ідэі. І ў Беларусі спыніць наступ Расеі зможа толькі нацыянальная ідэя. Калі гэтая ідэя прамоўленая — можна кансалідаваць нацыю. Але ўдзел у незаконным рэфэрэндуме, куды былі зацягнутыя апазыцыйныя партыі, не спрыяў такой кансалідацыі.

Далей сп. Пазьняк падцьвердзіў свой намер прыняць удзел у прэзыдэнцкіх выбарах 2006 году ў Беларусі. Прамоўца адказаў на пытаньні прысутных, і заклікаў моладзь больш актыўна браць удзел у грамадзкіх справах.

Спн. Ала Романо выступіла з заклікам дасылаць лісты да сэнатараў і кангрэсмэнаў у справе фінансавай падтрымкі прынятага Акту аб Дэмакратыі ў Беларусі, і заклікала ўжываць адпаведныя назвы для "Беларусь", "беларускі" па ангельску—"Belarus" а не "Byelorussia", і "Belarusan" а не "Byelorussian".

Сп. Вінцук Вячорка заклікаў прысутных ахвяраваць сродкі на "Звон Свабоды".

Падчас імпрэзы праводзілася зборка грошай на фонд "Дар Сакавіка".

*Віталь ЗАЙКА*



*Удзельнікі сьвяткаваньня 25 Сакавіка ў Нью Брансвіку. Здымак Анатоля СТАРКОВА.*

## Наступны сход

нью ёркаўскага аддзелу БАЗА адбудзецца ў нядзелю, **15 траўня 2005 году** ў грамадзкай залі пры Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага па адрасу:
***401 Atlantic Avenue (Bond Street), Brooklyn, NY 11217***
Пачатак апоўдні, 12:00, пасьля літургіі ў Саборы. Запрашаюцца ўсе, каму неабыякавыя свабода і дэмакратыя ў Беларусі. Даезд падземкаю A, C да станцыі ***Hoyt-Shermerhorn St.***, або падземкаю F да станцыі ***Bergen St.***

### Уплаты ў нью ёркаўскі аддзел БАЗА:
**Складкі й ахвяраваньні:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| В. Едзіновіч | 50 | А. Науковіч | 30 |
| Ю. Лапіцкі | 40 | Л. Норык | 30 |
| С. Аўдзейчык | 30 | Ю. Паплеўка | 30 |
| З. Вашкевіч | 30 | З. Пракапенка | 30 |
| М. Вашкевіч | 30 | С. Пятровіч | 30 |
| А. Вусьцін | 30 | С. Рошчык | 30 |
| В. Гойдзь | 30 | У. Русак | 30 |
| С. Гойдзь | 30 | С. Саўко | 30 |
| Г. Дзям'яненка | 30 | Я. Сіманюк | 30 |
| В. Зайка | 30 | Х. Сімончык | 30 |
| Р. Зайка | 30 | В. Смолка | 30 |
| В. Кулашчык | 30 | Н. Хабібуліна | 30 |
| А. Міцкевіч | 30 | А. Халадзінскі | 30 |
| Т. Міцкевіч | 30 | | |

**Шчыры дзякуй!**

**Уплаты дасылайце на адрас:**
*Valeri Dvornik*
*172 Millspring Rd.*
*Manhasset, N.Y. 11030*
**Чэкі выпісвайце на *Belarusan American Association*.**

# Маладзёвая

**Цытата нумара:** ***“Найвялікшы патрыятызм у тым, каб ваяваць з комплексамі сваёй нацыі”.***
**Томас ВЕНЦЛАЎ**

**Паважаныя чытачы!**

Прапаноўваем Вашай увазе новы разьдзел газэты, прысвечаны й зроблены для моладзі. Цягам апошніх гадоў колькасьць беларускіх эмігрантаў значна павялічылася, і іх пераважную большасьць складае моладзь. Нажаль, да гэтае пары ў ЗША не існуе выданьня, якое-б закранала праблемы маладога пакаленьня беларусаў, факусавала ўвагу на іхных захапленьнях ды інтарэсах. Стварэньне маладзевай старонкі ў газеце зьяўляецца спробаю "Беларуса" адрэагаваць на патрабаваньні й чаканьні новага чытацкага кола газэты.

Справа гэтая новая, таму мы разлічваем на падтрымку з боку чытачоў. Нам неабходна ведаць, што цікава маладой аўдыторыі, якія тэмы й матар'ялы моладзь хацела-б бачыць на гэтай старонцы. Поле магчымых рубрыкаў і артыкулаў не абмяжаванае, і кожны можа стаць іхным аўтарам. У гэтым нумары, які прэзэнтуе маладзёвую старонку, мы свядома не даём ёй назву. Прапаноўваем Вам, шаноўныя чытачы, абраць для яе імя, і якім яно будзе залежыць ад Вас.

Калі ласка, дасылайце ўсе Вашы матар'ялы, ідэі, заўвагі, прапановы на адрас рэдакцыі (**hazetabielarus@att.net**) ці адказнага за маладзевую старонку (**moladz_bielarus@tut.by**). Чакаем на Вашыя водгукі.

***Рэдакцыя маладзёвай старонкі***

***Былыя чэскія студэнцкія актывісты, удзельнікі аксамітнай рэвалюцыі, накіравалі рэзалюцыю ў Эўрапейскую камісію ў падтрымку беларускіх студэнтаў. Былыя студэнцкія актывісты, а на сёньняшні дзень вядомыя і паважаныя людзі ў Чэхіі, ў тым ліку дэпутаты парляманатаў Чэхіі й Эўрапейскага Зьвязу зьвярнуліся да Эўрапейскай камісіі й выказалі сваю занепакоенасьць абмежаваньнем студэнцкіх правоў і свабодаў у Беларусі.***

Ніжэй ідзе пераклад звароту на беларускую мову.

## Адозва ў падтрымку беларускіх студэнтаў – Беларусь належыць да Эўропы! Адозва былых студэнцкіх актывістаў да беларускага студэнцтва

Да пятнаццатай гадавіны заснаваньня Задзіночаньня Беларускіх Студэнтаў, адзінай дэмакратычнай і аўтаномнай студэнцкай арганізацыі ў Беларусі, якая была ганебна зьліквідаваная лукашэнкаўскім рэжымам, мы, былыя студэнты, удзельнікі чэхаславацкай Аксамітнай рэвалюцыі, зьвяртаемся да Эўрапейскай камісіі, каб яна ўсімі магчымымі сродкамі імкнулася да падтрымкі й разьвіцьця дэмакратычных сілаў у Беларусі.

Рэжым Лукашэнкі імкнецца ўсімі спосабамі абмежаваць уплыў эўрапейскіх дэмакратычных каштоўнасьцяў на беларускую інтэлігенцыю і студэнцтва. Гэтаму служаць усялякія адміністратыўныя абмежаваньні, якія вядуць да фактычнае ліквідацыі пазаўрадавага сэктару й ізаляцыя інтэлектуальнага асяродзьдзя ад замежнага ўплыву. У мінулым годзе беларускія ўлады ліквідавалі апошнюю незалежную ад рэжыму адукацыйную ўстанову – Эўрапейскі Гуманітарны Унівэрсытэт у Менску. Зараз яны імкнуцца яшчэ болей абмежаваць і так мінімальную магчымасьць навучаньня беларускіх студэнтаў у краінах Эўрапейскага Зьвязу.

Пры ўсьведамленьні незамяняльнай ролі вольнадумнага студэнцтва для разьвіцьця дэмакратыі, мы зьвяртаемся да Эўрапейскай камісіі ды іншых інстытуцый Эўрапейскага Зьвязу, каб яны істотна пашырылі магчымасьці падтрымкі беларускіх студэнтаў у краінах Эўразьвязу. Перш за ўсё трэба перагледзець і спрасьціць працэдуру адбору студэнтаў для навучаньня ў краінах Эўрапейскага Зьвязу, прычым вырашальнымі павінны быць здольнасьці саміх студэнтаў, а ні ў якім разе не меркаваньне вышэйшае школы.

Эўрапейскі Зьвяз таксама павінен спрасьціць працэдуру атрыманьня студэнцкіх візаў для беларускіх грамадзянаў.

Таксама было-б добра пашырыць эўрапейскія адукацыйныя праграмы Сакратас/Эразмус і Леанарда да Вінчы на Беларусь, гэтак-жа як мелі магчымасьць імі карыстацца студэнты з новых краінаў-сябраў Эўразьвязу (у тым ліку і Чэскай рэспублікі) яшчэ задоўга да ўступленьня ў Эўрапейскі Зьвяз.

Мы выступаем за тое, каб беларускі народ меў поўнае права свабодна для сябе абраць эўрапейскі шлях. Эўрапейскі зьвяз мае маральны абавязак даць яму гэтую магчымасьць.

Прага, 21.03.2005г.

***Яна Гыбашкова**, дэпутатка Эўрапейскага Парляманту,*
***Марцін Мэйстржык**, сэнатар Парляманту Чэскай рэспублікі,*
***Моніка МакДонаг-Паерава, Йіржы Дэнстбэр малодшы,***
***Томаш Прашэк, Ігар Хаўн, Марцін Штайнэр, Йіржы Ворач***

# Зноў пра 75 ці містэрыі 2005

Памятаеце дзесьці пасьля 91-92 гг., калі хутка пачаўся курс на беларусізацыю, дзякуй сп. Пазьняку ды іншым: перавод школаў на беларускую мову, стварэньне падручнікаў (аўтар меў шчасьце па іх навучацца), перапісваньне службовых цыркуляраў, дакумантацыі, заняткі службоўцаў, якім давялося наведваць заняткі ўвечары каб падцягнуць мову, тое, што было надзейна забытае, ці тое, чаго ніколі ня ведалі? Здавалася, вось яна, тая мара, у якую хацелася верыць...Але раптам ўсё зьмянілася...Прайшло ўсяго некалькі гадоў, і ўжо які-небудзь гурт, сьпяваючы па-беларуску лічыўся нечым выпадаючым з абоймы, несур'ёзным, няўгодным...

Як стала вядома, што ад пачатку году 75 адсоткаў музыкі на радыё мае быць беларускай, у СМІ пачалася паніка: як так, людцы мае, што-ж робіцца? Няўжо адных беларускіх выканаўцаў будуць па радыё перадаваць? Не – мы хочам быць наперадзе і слухаць толькі якасную прадукцыю з усяго сьвету! Адна толькі праблема, што якасную прадукцыю з усяго сьвету мы неяк не даслухаліся, бо ў большасьці ў этэры была расейская папса. Ды й якасьць гэтае музыкі – пытаньне супярэчнае. Невядома, па якіх крытэрыях трэба гэтую якасць вымяраць. Калі на ўласны густ, дык ён у кожнага розны. Да таго цяжка хіба простаму чалавеку ацаніць узровень заходняй поп-музыкі й, зноўку, яе якасьцёвае адрозьненьне ад расейскай альбо беларускай.

І вось прыйшоў студзень 2005 году. Праграмныя дырэктары ў паніцы – дзе ўзяць столькі беларускай музыкі? Усё вырашаецца вельмі проста – бярэм падшыўкі некаторых музычных выданьняў за 2004 год ( варта нагадаць што цэлы 2004 год выданьні добра асьвятлялі беларускую музыку, дзякуючы намаганьням ды працавітасьці самых музыкаў). Праглядзеўшы, можна заўважыць нямала рэцэнзіяў на запісы беларускіх выканаўцаў: іх набярэцца зь першага погляду каля 50-ці. Кожны альбом гэта дзесьці 50 хвілінаў. Простыя матэматычныя апэрацыі паказваюць - гэтай музыкай можна "закідаць" этэр на працягу некалькіх дзён. І гэта ня ёсць нейкі андэргаўнд незразумелы большасьці, а нармалёвая, звыклая поп-музыка. І гэта толькі за 2004 год. Трэба дадаць яшчэ, што ня ўсе музыкі прыслалі свае працы на рэцэнзіі. Дадайце запісы за папярэднія гады. Магчыма некаторыя скажуць, што якасьць гучаньня ня тая? У Беларусі ўжо даўно навучыліся пісаць матар'ял на добрым узроўні, безь "пяску" і скрыжытаньняў. Дзякуй гукапрадусарам, яны сваю справу ведаюць. Канечне, якасьць нашых студыяў гуказапісу яшчэ далёка да заходніх, але-ж гэтага не патрабуецца (прынамсі адразу). Ня кожны слухае радыё на прафэсыйнай апаратуры. На звыклым прыймачу немагчыма адрозьніць нюансы гуку, калі гэта толькі не "дваровы" запіс.



Прынамсі даведаліся аб існаваньні ўласнай музыкі ў Беларусі (абсурд, калі гэта прыйдзецца камусьці даказваць). Можна рабіць аўтарскія праграмы беларускай музыкі. У параўнаньні з гэтым неяк недарэчна выглядае памяншэньне гучаньня праграмы "Сёньня ноччу" на "Радыё Менск", што пазьней прывяло да яе поўнага закрыцьця. На той праграме "ўжывую" гралі свае сэты беларускія DJ-і. Хіба праграмны дырэктар мала ведае пра працэс стварэньня музыкі ды-джэямі, бо гэта ня толькі пуск запісу ў этэр( сумна, што гэтыя людзі яшчэ клічуць сябе "дыджэямі"), але-ж і зьвядзеньне трэкаў у адзіны мікс, апрацоўка гуку, у часе якога кампазыцыя зьмяняецца. Варта нагадаць, што забарона беларускамоўнага "Радыё 101,2 FM" у далёкім 1998 годзе, негалосная забарона на граньне твораў такіх гуртоў і выканаўцаў як "NRM", "Крама", Зьміцер Вайцюшкевіч, "Палац", "Уліс", "Гарадскія", "Нэйра Дзюбэль" пасьля выступу на канцэрце, арганізаваным апазыцыяй летам 2004 году – адбіваецца на беларускай культуры нэгатыўна. "У Беларусі ставяцца з асьцярогаю да інтэлігенцыі й нагул да творчых асобаў, бо яны не падначальваюцца нейкім загадам зьверху. Таму няма аніводнага дзіўнага ў спробах з дапамогаю "рэкамэндацый" ці "сьпісаў забароненых" адхіліць іх ад удзелу ў музычным працэсе. Я не крыўдую. Калі крыўдаваць на ўсё, што адбываецца наўкол, можна проста захварэць і памерці» – кажа Слава Корань, вядомы беларускі музыка. Ад гэтае забароны слухачоў у гуртоў ня ўбавіцца, наадварот...і прыйдзе калісьці той дзень, калі ўсе гэтыя гурты, прадусары, змушаныя зарабляць грошы шабашкамі, зьбяруцца й заграюць на стадыёне "Дынама" у Менску перад незьлічонымі тысячамі слухачоў і адданых фанаў. Гуслям, княжа, ня пішуць ліцэнзіяў...

Колькі разоў беларускім музыкам даводзілася стаяць, спаць, зубамі скрыжытаць пад дзьвярыма радыёстацыяў, каб, літаральна падаючы на калені, штосьці пусціць у этэр? Безьліч...Дык вось, прыйшла вашая чарга, каханыя і паважаныя праграмныя дырэктары радыёстацыяў бегаць за музыкамі. Калі й надалей ня будзеце заўважаць іх, калі ласка, вызвальце месцы – дылетантам ў шоў-бізнэсе рабіць няма чаго.

***Уладзімер***
***МІГЕЛЬ-ВІШНЕЎСКІ***

## бачына

# Канцэрт Лявона Вольскага ў Дэлявэры



Вялікае сьвята аматарам беларускай музыкі падараваў Лявон Вольскі, лідэр гурту NRM і праекту Krambambula. Прыезд музыкі выклікаў зацікаўленасьць ня толькі маладога пакаленьня беларусаў, але і тых, хто жыве тут ужо ня першае дзесяцігодзьдзе. Выступ Вольскага плянаваўся яшчэ ў лістападзе летась, але тады яму адмовілі ў візе. Ды неўзабаве ён атрымаў яе ўжо сёлета, і ад таго часу "страсьці па Вольскаму" нарасталі. Моладзь чакала сьпевака зь нецярпеньнем.

Лявон Вольскі правёў чатыры канцэрты, якія спалучыліся ў сапраўднае турнэ па ЗША. Самы вялікі канцэрт адбыўся ў Рэхабот Біч, штаце Дэлавэр, 15 сакавіка. Можна сьмела сказаць, што гэта была адна з найважнейшых культурніцкіх падзеяў для беларускай дыяспары за апошняе дзесяцігодзьдзе. Канцэрт сабраў багата моладзі з розных куткоў краіны. Як зазначыў сп. Андрэй Лабай, арганізатар канцэрту, ён чакаў большай колькасьці гледачоў, аднак меншы лік прысутных не паўплываў на агульны настрой. Прыемна было бачыць моладзь зь бел-чырвона-белымі сьцягамі, якія луналі на працягу ўсяго канцэрту. Важна, што для большасьці прысутных канцэрт стаўся яшчэ і магчымасьцю сустрэцца ды пазнаёміцца са сваімі зямлякамі і аднагодкамі, бо сустрэчы такія нячастыя. Прысутныя на канцэрце падзяліліся з намі першымі ўражаньнямі.

Марат, Нью-Ёрк, 41 год: "Мне асабіста вельмі спадабалася. Можа таму, што рэдка здараюцца такія сустрэчы".

Уладзімер, Флярыда, 22 гады: "Здаецца, пытаньне трохі ня так пастаўлена. Ці варта было ехаць зь Флярыды 14 гадзін, ня спаўшы, каб 3 гадзіны Вольскага пабачыць? Адкажу: варта было! Я на ягоных канцэртах ўжо 4 гады як ня быў. У нейкім сэнсе гэта для мяне патрыятычны абавязак".

Агнешка, з Польшчы, 26 гадоў: "Вельмі прыемна было пачуць Вольскага нажыва. Я аб беларускай музыцы нічога ня чула, пакуль хлопца-беларуса не займела".

Стась, Нью-Ёрк: "Мяне прыезд Вольскага вельмі ўзрадаваў. Я на ягоны канцэрт у Нью-Ёрку таксама пайду".

Аматары творчасьці Лявона Вольскага атрымалі багата прыемных сюрпрызаў. Непасрэдна перад канцэртам быў арганізаваны продаж кампакт дыскаў з запісамі "NRM", Беларускай Уніі Музыкаў, праектаў "Krambambula", "Я нарадзіўся тут" ды іншых. Колькасьць іх была абмежаваная, але найбольш дасьціпныя ўсё-ж набылі запісы сваіх любімых гуртоў. На іх пасьля канцэрту Лявон і ставіў свае аўтографы ўсім жадаючым. Не адмаўляўся сьпявак і фатаграфавацца з амтарамі сваёй музыкі.



*Арганізатары канцэрту сп. сп. Аляксандар Зарэцкі й Андрэй Лабай аб'яўляюць аўкцыён.*

Перад другою часткаю выступленьня арганізатары правялі аўкцыён, які выклікаў ажыятаж сярод прысутных. Бутэлька напою "Крамбамбуля", якую, па словах сп. Лабая, прыгатаваў сам Лявон, прадалі ажно за дзьвесьце даляраў. Шчасьліваю ўладальніцаю той бутэлькі з аўтографам музыкі стала спадарычня Гражына Залеўская зь Нью Ёрку.



*Уладальніца Krambambuli спчн. Гражына Залеўская.*

Зь першай-жа песьні Вольскі завалодаў аўдыторыяй, якая ад усёй душы яму падпявала. Ды й ня дзіва: словы даўніх гітоў "Тры Чарапахі", "Паветраны шар", "Госьці", "Сонца нам дапаможа" ды "Абсэнт" знаёмыя кожнаму. Заля літаральна выбухнула аплядысмэнтамі ды воклічамі пад сьпеў Вольскага: "Я нарадзіўся тут, і я буду жыць тут". Словы гэтыя блізкія сэрцу кожнага беларуса.

Хочацца дадаць, што першая спроба правядзеньня канцэрту беларускага музыкі прайшла цудоўна. Такое пачынаньне неабходна падтрымаць і разьвіваць. У будучым гастролі беларускіх гуртоў маюць вялікі патэнцыял. Аб гэтым сьведчыць і надзвычайная зацікаўленасьць публікі нашай музыкай. Мы спыталіся ў прысутных, на каго зь беларускіх музыкаў яны-б ў першую чаргу пайшлі, калі б тыя прыехалі ў ЗША.

Аляксандар: "Зь вялікай ахвотаю пайшоў бы на NRM і зноў на Лявона Вольскага. Яго мы заўсёды чакаем з канцэртамі, бо яны для беларуса ў Амэрыцы, як глыточак роднага паветру. Дзякуй сп. Лабаю, што арганізаваў гэтае сьвята для нас".

Агнешка: "Я-б напэўна пайшла на NRM ці Zet, не абмінула-б IQ-48 з Памідоравым, Вайцюшкевіча."

Уладзімер: "Будзем чакаць на "Уліс", "Краму"..."

Спыталі мы ў прысутных, ці заўважылі яны якія-небудзь хібы ў арганізацыі канцэрту.

Уладзімер: "Шчыра прызнацца, душа баліць ведаючы колькі беларусаў жыве на паўночным усходзе Амэрыкі й толькі нейкая сотня чалавек знайшлі час, каб прыехаць. Сорамна, тым болей канцэрт быў дармовы... Што перашкаджала ім прыехаць, застаецца таямніцай".

Агнешка: "Не заўважыла. Усё было добра, дзякуй арганізатарам".

Скончыўся канцэрт, а песьні Лявона Вольскага дагэтуль гучаць у галаве. Канцэрт нашага слыннага рок-музыкі стаўся выбітнай падзеяй для нас усіх. Ён нарадзіў надзеі, што ініцыятыва выступленьняў беларускіх музыкаў у ЗША будзе падтрыманая, і ў будучым мы зможам пачуць багата беларускай музыкі ў Новым сьвеце.

**Дыяна ГУМБАР**



*Лявон Вольскі й аматар ягонай музыкі Аляксандар з Вірджыніі.*





*Гледачы падчас выступу Лявона Вольскага адчувалі сябе вольна і падтрымлівалі свайго куміра ўсімі магчымымі шляхамі .*

# Маладзёвая

*Лявон Вольскі – вядомы ў Беларусі музыка, лідэр гурту NRM, арганізатар і ўдзельнік шматлікіх музычных праектаў. Выканаўца вядомых песень "Тры чарапахі", "Люблю", "Лёгкія-лёгкія", "Абсэнт" знаходзіць аматараў сваіх сьпеваў у кожным месцы, куды-б ён ні паехаў. Лявон зьяўляецца ідэалам рок-музыкі для беларускай моладзі. Яго любяць ў Беларусі, у Польшчы, а зараз ён знайшоў колішніх "фанаў" NRM, што апынуліся на прасторы ЗША. Лявон ВОЛЬСКІ пагадзіўся адказаць на мае пытаньні.*

## ...неабходна арганізоўваць культурнае жыцьцё...



**- Добры дзень, Лявон! Якія ўражаньні пакінула ў Вас «амэрыканская» беларуская публіка на канцэрце ў Дэлявэры?**

- Вельмі станоўчыя. Я зразумеў, што яшчэ зусім нічога ня згублена, бо пры наяўнасьці ад'езду за мяжу жахлівае колькасьці беларускае моладзі, некаторая, і немалая частка гэтае масы народу, застаецца і жадае быць і пачувацца беларусамі. Таму для іх неабходна арганізоўваць нейкае культурнае жыцьцё (я маю на ўвазе канцэрты, сучасныя імпрэзы), бо, як мне падаецца, марнаваць час на нейкіх паседжаньнях ім ня вельмі даспадобы. Яны сюды прыехалі працаваць, зарабляць грошы, рэалізоўвацца - рабіць тое, чаго яны пазбаўленыя на роднай зямлі. Мы-ж павінныя ня кідаць іх на выжываньне й настальгію, а прыяжджаць, граць канцэрты, размаўляць зь імі, - здаецца, гэта вартасная справа. Дарэчы, акцыя адбылася дзякуючы дапамозе беларускае дыяспары ў Амэрыцы й маладому энтузыясту Андрэю Лабаю (ён жыве ў Дэлявэры, інтэрнэтная мянушка - Дзед Барадзед). Думаю, далей гэткія акцыі рабіць будзе прасьцей, бо ў першы раз усё падаецца незнаёмым і цяжкім да выкананьня.

**- Ці ласкава Вас сустрэла Амэрыка?**

- Амэрыка сустрэла мяне ласкава. Большую частку часу я правёў у Дэлявэры, пры акіяне. Тут вельмі добры клімат, я, апроч чатырох канцэртных вандровак (якія таксама былі вельмі цікавыя) і выезду ў Вашынгтон, практычна два тыдні пражыў на курорце. Мы выбіраліся ў Оўшэн-Сыты, у Льюіс... Уражаньняў багата, калі будзе час, напішу эсэ.

**- У ЗША Вы прыляцелі адразу пасьля канцэрту ў Польшчы. Там у Вас ёсьць багата аматараў. Чым на ваш погляд розьніцца польская публіка ад беларускай?**

- Яна меней ведае нашыя песьні. Але таксама вельмі актыўная.

**- Ці адбіваецца ціск з боку ўладаў на творчасьці ў Беларусі?**

- У сучасным беларускім жыцьці існуе ціск улады на ўсё. Безумоўна, і на незалежную музыку. Мы не гучым на дзяржаўных сродках масавае інфармацыі, нам цяжка арганізоўваць канцэрты ў правінцыі, але мы маем сталую папулярнасьць і павагу слухачоў.

**- На інтэрнэтнай бачыне «Тузіны гітоў» з'явілася інфармацыя пра нявыдадзены пакуль праект на словы Ул. Караткевіча "Вецер вей" ("Скрыпка дрыгвы") з Усяславам Суша ў ролі прадусара. Можаце распавесьці пра гэты новы праэкт?**

- Гэта, нажаль, ня новы праект. Гэта мусіў быць чарговы супольны музычны праект беларускіх музыкаў. Там бралі ўдзел я, Вячаслаў Корань і "Уліс", Зьміцер Вайцюшкевіч, гурт "Нэйра Дзюбель" і іншыя. Нажаль, праект ня быў канчаткова ўвасоблены ў жыцьцё з розных прычынаў. У сеціва былі выкладзеныя толькі некалькі песьняў. Ня ведаю, ці пабачыць "Скрыпка дрыгвы" сьвет, баюся, ужо не.

**- Можаце падзяліцца Вашымі творчымі плянамі?**

- Плянаваць нешта наогул шкодна, асабліва ў цяперашняе Беларусі. Але ў бліжэйшы час: некалькі канцэртаў гуртоў NRM і KRAMBAMBULA, запіс песьні гурту NRM на студыі ў Беластоку (тое-ж і з гуртом ZET) для прэзэнтацыйнага дыску сучаснае беларускае музыкі, удзел у вялікім (супольным з украінцамі) канцэрце ў Варшаве ў сярэдзіне траўня, прэзэнтацыя альбому "Госьці" (лепшыя песьні) гурту KRAMBAMBULA ў Кіеўскім клюбе "44"...

**- Ці чакае аматараў беларускай музыкі новыя праекты супольнасьці Беларуская Ўнія Музыкаў? І калі плянуецца выхад наступнага альбому NRM?**

- Так. Сачыце за (хацеў сказаць рэклямай) навінамі. А выхад альбому NRM – гэта сакрэт.

**- Ці ёсьць пляны зноў прыехаць у ЗША?**

- Паспрабую наступным разам прыехаць з гуртом. Не атрымаецца - паспрабую прыехаць адзін. Тут ужо ёсьць каму падыграць - напрыклад, малады хлопец Паўлюк. Ён мне дапамагаў на ўсіх канцэртах.

**- Вялікі дзякуй за Вашыя канцэрты. Гэта было надзвычай цудоўна.**

- Дзякую за добрыя словы. Спадзяюся, што неўзабаве можна будзе прыехаць з гуртом і зрабіць усё яшчэ лепей.

*Мне таксама пашанцавала паразмаўляць з сп. Андрэем ЛАБАЕМ, які стаў сапраўдным героем дня на канцэрце ў Дэлявэры, бо менавіта дзякуючы ягоным намаганьням мы змаглі пачуць Лявона Вольскага. Вось што ён распавёў пра ажыцьцяўленьне сваёй задумы.*

## ...гэта тое, што запомніцца назаўсёды



**- Андрэй, з чаго ўсё пачалося? Як нарадзілася такая адважная ідэя?**

- Мой імпэт запрасіць Лявона Вольскага ў ЗША зьявіўся амаль адразу як я прыехаў у гэтую краіну. Спачатку гэта нагадвала нейкую чарговую мару. Больш за ўсё мяне падштурхоўвала тое, што ўкраінскія ды расейскія сьпевакі ды гурты прыяжджаюць у Злучаныя Штаты ледзь не штотыдзень. А што чуваць было ад беларускай дыяспары? Нічога істотнага. І тады я канчаткова зразумеў, што калі не я, тады ніхто. І з падвойным імпэтам узяўся за ажыцьцяўленьне нечага нашага, беларускага. Усё атрымалася не так цяжка, як здавалася. У гэтай справе мне вельмі дапамог мой сябра Аляксандар Зарэцкі. У рэшце рэшт, ня гледзячы на адмову ў візе, прыехаў Лявон з сваёю жонкаю. Пасяліліся ў нас у Дэлявэры. Да канцэрту заставалася 5 дзён. За гэты час здавалася, што ўсе беларусы Дэлявэру пабывалі ў нас у госьціках. Бо нерэальна было спыніць іх жаданьне пабачыць зорку беларускага рок-н-ролу.

Да першага канцэрту заставаўся адзін дзень. Да гатэлю, дзе меўся адбыцца канцэрт, пачалі зьяжджацца машыны зь беларускімі налепкамі й бел-чырвона-белымі сьцягамі. Усе былі ў прадчуваньні нечага вельмі прыемнага. Публіка складалася ў асноўным з былых беларускіх студэнтаў, якія не шкадавалі ні часу, ні грошай. Некаторыя прыехалі нават з Флёрыды й Джорджыі. Гэта-ж амаль суткі на машыне ехаць! У выніку сабралася каля 120-150 слухачоў.

Здавалася, што знаходзішся недзе ў Беларусі, а не за мяжою. Адчувалася ўтульная хатняя атмасфэра... Бел-чырвана-белыя сьцягі, родная мова, неверагодная колькасьць беларускай моладзі, усьмешкі, знаёмыя ўсім песьні, клічы "Жыве Беларусь!" – гэта тое, што запомніцца назаўсёды.

**- А што адбывалася пасьля канцэрту?**

- Пасьля заканчэньня канцэрту моладзь накіравалася ў ірляндзкі бар, дзе пад беларускую музыку працягвала весяліцца далей. Яшчэ запомніўся мэксыканец Антоніа, прыхільнік беларускай музыкі, які нават вывучыў кавалачак тэксту з песьні дыску KRAMBAMBULA "Тэкіла": "Каміла, Каміла, мяне ты любіла. Навошта, Каміла, ты кінула мя-я...". Ён у канцы выступу падараваў Вольскаму бутэльку тэкілы.

**- Якія адчуваньні, калі справа ўжо зробленая, канцэрт прайшоў зь вялікім посьпехам, а аматары музыкі Лявона Вольскага пачалі адлічваць дні да новай сустрэчы зь ім? Ці паспрыяюць канцэрты актывізацыі грамадзкага жыцьця беларускай моладзі?**

- Можна сьмела заявіць, што першы крок да аб'яднаньня беларускай моладзі ў ЗША быў зроблены. І ен прайшоў вельмі пасьпяхова. На восень заплянаваны канцэрт лепшага беларускага гурта NRM у поўным складзе. На канцэрце ў Дэлявэры я пабачыў шмат адданых, энэргічных маладых беларусаў. Зь імі хочацца працаваць, нешта для іх рабіць. Разам з маім сябрам Аляксандрам плянуем арганізаваць беларускія дыскатэкі, сайт. Таксама маем ў плянах стварэньне маладзёвага згуртаваньня.

*Напрыканцы дадам, што восеньскі канцэрт гурту NRM плянуецца ў Нью-Ёрку як найаптымальным месцы для збору вялікай колькасьці народу. Прыезд у ЗША зрабіў такое вялікае ўражаньне на Лявона, што па вяртаньні ў Беларусь ён засеў за працу над новаю песьняю, якую скончыў літаральна некалькі дзён таму. Яна ўвойдзе ў новы альбом, які рыхтуе гурт. Аб чым гэтая кампазыцыя, пакуль ніхто ня ведае. Будзем спадзявацца, што даведаемся ўвосень.*

**З Л. Вольскім і А. Лабаем гутарыла Дамініка КНЯЖНІНА**

# Беларускі футбол у Філядэльфіі

Міжнародны турнір па міні-футболу адбыўся ў Філядэльфіі 26 сьнежня мінулага году. Спаборніцтвы былі арганізаваныя сп. Славам Белашапкам, прэзыдэнтам Амэрыканскай Футбольнай Асацыяцыі. У турніры ўзялі ўдзел чатырнаццаць камандаў, у тым ліку каманды Польшчы, Летувы, Украіны, Арменіі, Грузіі, Марока і каманды Беларусь і Беларусь (W). Першыя тры месцы занялі Беларусь, Марока, і Ўкраіна. Гэта быў ужо трэці турнір такога кшталту.

"Любоў да футболу аб'ядноўвае гульцоў і тых, хто прыходзіць пахварэць за спартоўцаў, таму турніры й праходзіць з поўнымі тыбунамі, якія звычайна зьбіраюць 500-1000 чалавек", - кажа сп. Белашапка. "У мініфутбол гуляюць і 15-гадовыя хлапчукі, і людзі, якія ўжо выйшлі з звычайнага футбольнага ўзросту. Турніры яднае футбалістаў розных краінаў, гэтым мы падкрэсліваем, што футбол – гэта гульня для ўсіх."

Сп. С. Белашапка аб'ядноўвае аматараў футболу ўжо пяты год. Турніры праходзяць па эўрапейскай мадэлі міні-футболу. На апошніх спаборніцтвах, якія адбыліся ў канцы снежня летась былі ўзнагарожаныя Анатоль Новік (Беларусь) у якасьці лепшага абаронцы й Мікола Лутохін (Беларусь) за лепшы гол.

Наступны турнір мае адбыцца 8 траўня 2005 году ў Філядэльфіі ў спартовай залі **"Sportsplex"** (***1331 O'Reilly Drive, Feasterville, PA 19053***). Больш інфармацыі можна атрымаць у сп. Белашапкі па тэлефоне ***856-772-1161*** ці праз электронную пошту ***asa@snip.net***.

Запрашаем наведаць гульні наступнага турніру і пахварэць за нашыя беларускія каманды.



*"Беларусь" - пераможца леташняга турніру.*

# бачына

## Наша фанатэка

## Досыць маніць пра паляка Манюшку

*Станіслаў Манюшка.* "*Песьні з-над Нёмна й Дзьвіны*", *Мн., 2004, БМAgroup*"




Прыгадваю часіны свайго савецкага юнацтва, калі, захапіўшыся музыкай, заходзіў я рэгулярна ў буйнейшую ў рэспубліцы краму Беларускага Дому грамафонных кружэлак (на вуліцы нейкага Казлова ў Менску). Чаго там толькі не было: амэрыканскі джаз, італьянская эстрадная песьня, польскі ды часам і брытанскі рок, неўміручая эўрапейская клясыка... Толькі не падумайце, што гэта быў рай для беларускага мэламана. Бо акурат беларускага там не было нічога – ні ў джазе, ні ў року, ні ў клясыцы... Хіба толькі ў разьдзеле фальклёру *можна было нешта адшукаць.* І ўжо тады я задумваўся, што-ж мы за народ такі, што ў нас ні клясыкі сваёй, ні сучасных напрамкаў музыкі, ні экспэрымэнтаў якіх незвычайных... Ледзь было не паверыў, што мы сапраўды мёртвы народ.

Але неяк выпадкова ўзяў у рукі дыск польскага клясыка Станіслава Манюшкі і... на маю юначую галаву пасыпаліся пытаньні: а што-ж гэты паляк падбіраў да сваёй музыкі паэтаў толькі з нашых краёў (Міцкевіча, Сыракомлю, Чачота), ды што гэта за фальварак такі Убэль, пра які палякі нават не згадваюць, дзе знаходзіцца, а ў сэрцы Беларусі, на Чэрвеньшчыне (калісь Ігумэншчыне) ёсьць такі Убэль. Ці не апранулі зноў прынца ў жабрака, а мы, сучасныя пераверкі, зноўку паддаемся старому падману.

Цікава, што ня толькі палякі прысабечылі наш скарб, але й маскоўская фірма "Мелодия", якой БССР даверыла ахоўваць свой музычны даробак, сьпісвала таго-ж Манюшку ў польскую скарбонку нават тады, калі я выпадкама пабываў у тым самым Убелі (кілямэтраў 70 ад Менску) ды пераканаўся, што менавіта там нарадзіўся сусьветны геній музыкі, менавіта там знаходзіцца адзіны ў сьвеце музэй Манюшкі. І менавіта МАНЮШКАМІ можна назваць тых, хто спрабаваў МАНІЦЬ нам, прыдумваючы мітычныя крыніцы такога роднага й зразумелага нам прозьвішча (нібыта ён з невядомага нам роду нейкіх Монькаў, а мо нават і з далёкіх ледзь не Монтэ-Крыстаў). Дык чаму-ж тады так ганарліва шанаваў свае песьні З-НАД НЁМНА Й ДЗЬВІНЫ, складзеныя паводле фальклёру родных мясьцінаў. Родных нам і родных сабе.

Гісторыя гэтай праграмы, нядаўна выдадзенай на радзіме славутага кампазытара ў папулярнейшай CD-сэрыі "Беларускі музычны архіў", асабліва характэрная для гісторыі, як казаў паэта, "вечна забранага краю": паэт Ян Чачот, сабраўшы мноства беларускіх фальклёрна-песенных скарбаў, з патрэбы падпарадкаваньня тагачаснаму рэжыму, каб мець шанц выдаць іх, вымушаны быў перакласьці ўсё на польскую мову. Мы-ж памятаем, што беларуская мова была афіцыйна забароненая сьпярша палякамі, потым расейцамі. Але "Песьні з-над Нёмна й Дзьвіны" ня сталі (бо й не маглі стаць) "Песьнямі з-над Віслы й Одэру" або "Песьнямі з-над Акі й Волгі".

Натуральна, надыйшоў час, калі знайшліся паэты, якія вярнулі Чачотавы пераклады зноў ва ўлоньне беларускай мовы. А родная нам Манюшкава музыка засталася. Дык вось, бадай, упершыню "Песьні з-над Нёмна й Дзьвіны" гучаць на той мове, якая заўсёды была роднай жыхарам Наддзьвіньня й Наднямоньня. Праўда, гэта ўжо выразна ня першасны варыянт тых песень, якія прайшлі аж тры стадыі моўнага жыцьця, але ці ня тым больш каштоўны дыямэнт, якога так рупліва апрацоўвалі столькі рэзьбяроў?

"Сонейка", "Прыляцелі сакалочкі", "Дуброва", "Ой, бярозка міла", "Прасьнічка", "Што там за пташка"... Пры жаданьні нават у дасёньня захаванай скарбонцы беларускага фальклёру можна знайсьці аўтэнтычныя аналягі многіх з гэтых твораў (пазнаюцца вобразы, сюжэты, пэрсанажы, добра знаёмыя многім зь дзяцінства). Але гэта не прыніжае каштоўнасьці менавіта гэтых, кажучы словамі самога Чачота "Вандроўных пташак", тым больш, што пасьля дакрананьня стольких душаў таленавіцейшых кампазытараў і паэтаў яны сталі натуральным матар'ялам ужо не наіўна-інтуітыўнай фальклёрнай творчасьці, а высокапрафэсыйных інтэлектуальных мастацкіх праграмаў. Дый сярод выканаўцаў, якія зьдзейсьнілі гэты праект, асабліва прыемна назваць самых найвыдатнейшых прадстаўнікоў сучаснага беларускага музычнага авангарду: сьпевакі Віктар Скорабагатаў (барытон), Леся Лют (сапрана), Рыгор Палішчук (тэнар), знакаміты камэрны мужчынскі хор "Унія" ды іншыя.

Дарэчы, Віктар Скорабагатаў тут праявіў ня толькі свае творчыя таленты, але й арганізацыйныя. Разам з музыколягам Уладзімерам Мархелем ён напісаў красамоўную гісторыю вяртаньня аднаго з парасківаных нацыянальных эвэргрынаў. Іхні артыкул у буклеце новага выданьня так і называецца – "Наша бонда ў сусьветным скарбе". Згодна традыцыі названай сэрыі, дапаўняецца гэты расповед грунтоўным пералікам разнастайных сусьветных выданьняў нашага земляка, шырокай прэсы аб ім.

Дызайнэр Алесь Таболіч здолеў упісаць новы рэліз у стылістыку папярэдніх выданьняў "Беларускага музычнага архіву", куды ўваходзілі опэрны тэнар Міхась Забэйда-Суміцкі, кампазытар і дырыжор Мікола Равенскі, бард Сяржук Сокалаў-Воюш, артыст кабарэ Віктар Шалкевіч. Во колькі ў нас і жанраў, і выдатных прадстаўнікоў іх, аказваецца... калі ўзяцца за справу самому.

Варта дадаць, што ўпершыню ў архіўнай сэрыі дыск Манюшкі выдаецца камбінаваным фарматам CD-digital-audio+, бо акрамя гукавой праграмы ён зьмяшчае й мультымэдыйны відэа-файл *для кампутара – невялікі рэпартаж Але*ся Матафонава з таго самага адзінага ў сьвеце музэю Манюшкі ў Убэлі. Так што слухайце беларускага музычнага генія Манюшку і завітвайце да яго ў госьці. У Беларусь, натуральна.

***Вітаўт МАРТЫНЕНКА***

## Жартачкі

"Творчая" група праграмы "Рэзананс" Беларускага тэлебачаньня выправілася ў вёску, каб падрыхтаваць чарговы матар'ял для "самай чэснай перадачы". Кіроўца мікрааўтобуса, на якім яны імчаліся па калдобістых дарогах, ня ўпісваецца ў паварот, і яны на поўным ходзе ўрэзваюцца ў бярозу, перакульваюцца некалькі разоў і апынаюцца ў гародзе аднаго селяніна. Селянін, выходзіць з хаты, каб паглядзець, што там здарылася, пасьля бярэ ў рукі рыдлёўку, капае яму і хавае пацярпелых.

Праз некалькі дзён, следчая брыгада, якая займалася пошукам згінуўшых, натрапіла на перавернуты мікраўтобус і пытаецца ў селяніна, дзе падзеліся славутыя журналісты? "Я іх усіх пахаваў", адказае сялянін. "А што, усе мёртвыя былі?". "Шчыра кажучы, некаторыя казалі, што не. Але вы-ж самі ведаеце, якія яны брахуны".

* * *

Кабета падымалася па прыступках і спатыкнулася. Вертыкальшчык, што ішоў за ёю, дапамог ёй стаць на ногі.

- О, дзякуй Вам, Вячаслаў Ваныч, чым магу Вам аддзячыць?

- Ну, - кажа той з усьмешкаю, - прыходзьце на сёлетніх выбарах за мяне галасаваць.

- Што Вы кажыце? Я-ж каленам стукнулася, а не галавою!

* * *



Рэйсавы самалёт Менск-Кіеў ляціць над Калінкавічамі. Сцюардэса падбягае да пілёта:

- Адчыніце, калі ласка, люк, тут двое з Калінкавічаў выйсьці хочуць.

- Ага, учора аднаго выпусьціў, а трое ўскочылі.

* * *

Зьезьдзіў беларус у Гішпанію на карыду. Прыехаў дамоў, і яго пытаюць:

- Ну як там карыда?

- Дык, проста, бычка забілі ды ўсё.

- А чаго забілі?

- Дык, звар'яцеў бычок.

- А чаго ён звар'яцеў?

- А ты-б што не звар'яцеў, каб у цабе перад носам маскальскім сьцягам махалі?

* * *

У сувязі зь нявызначанасьцю ў сытуацыі з выбарамі ў ЗША, амэрыканцы зьвярнуліся па тэхнічную дапамогу ў беларускі Цэнтарвыбаркам. У ЗША вылецела Ярмошына, і на сёньняшні час атрыманыя новыя дадзеныя адносна выбараў у ЗША: зь вялікім адрывам перамагае Аляксандар Лукашэнка.

* * *



Размаўляе Лукашэнка па тэлефону:
- Добрая.. добрая.. дрэнная.. добрая.. не, гэта дрэнная.. Кідае слухаўку, выцірае пот з ілба й кажа:

- Нават бульбу безь мяне перабраць ня могуць!

* * *

Прыходзіць бабулька да сьвятара ў царкву і кажа:

- Айцец, у мяне гора, памёр мой любімы сабачка. Ці можна яго адпець?

- Як вы можаце такое багахульства гаварыць? - абураецца бацюшка - дзіце вунь да баптыстаў у суседнім квартале, яны гэта зробяць.

- Бацюшка, а ці хопіць двух тысячаў даляраў на адпяваньне? - пытаецца бабуля.

- Дык што-ж вы, даражэнькая, не сказалі, што сабачка быў праваслаўны!?

* * *

Заходняя Беларусь. Расейскі турыст у беларускай вёсцы пытае дзеда, які сядзіць каля хаціны :

- А ґде здесь, отец, грибочки пособирать можно?

Дзед яму адказвае:

- А ты іх, маскаліку, садзіў?!

* * *

Пачатак пяцідзесятых гадоў. Заходнебеларуская бабулька назаўсёды зьязджае ў Польшчу. Прыходзіць у раённую ўправу міліцыі забраць дакумэнты, а там сядзіць расеец-камуніст, ды кажа:

- Чаво это ты, бабка, на старасьці лет надумала уезжаць?

- Ды во, дзетачка, шукаю дзе жыць лепш. Хоць апошнія гады па-чалавечы пажыву.

- Э, бабка, харашо там, гдзе нас нет.

- Дык, я-ж, дзетачка, і шукаю, дзе вас няма!!!

**Сяржук СОКАЛАЎ-ВОЮШ**

# Разам

## (Беларуская нацыяналістычная казка)

Жыла была на сьвеце краіна. Звычайная. Як і іншыя. Нічога такога асаблівага, калі не лічыць, што была яна... твая, а значыць зусім не звычайная, да іншых не падобная, карацей, непаўторная.

І вялі ў той краіне рэй Вялікія Князі, ды мудрыя навукоўцы. Паэты тую краіну славілі, мастакі й скульптары векавечылі, кампазытары сваю справу рабілі, а руплівыя аратыя ўсім тым натхняліся, ды ўсіх іх кармілі.

Здаралася, часамі, Вялікія Князі не былі такімі ўжо вялікімі ці навукоўцы такімі ўжо мудрымі. Паэты тады рабіліся крамольнымі, мастакі й скульптары супраціўнымі, кампазытары запярэчнымі й толькі аратыя працягвалі сваю адвечную працу па-ранейшаму, ды ня ў смак.

А ведама, што пры якой заўгодна ўладзе есьці хочацца, таму ніхто лепш улады ня ведае як страўнік. Ён-жа й правы свае даводзіць няўхільна й доказна, а ўжо як вынікова – лепш ніж змагары за правы ўсяго людзтва.

Вось-жа ад страўніка ўсё й зачалося. Яшчэ ўчора зь вячора працаваў, што твой pergetuum mobile: самога сябе алівай змазваў, дранікамі са сьмятанай высьцілаючы, шкваркамі перакладаючы, сырадоем забельваў, на лусьце хлеба як на чароўным тацы такія прысмакі вітаў, што абрус-самабор цьвільлю й бросьняй ад зайздрасьці пакрываўся й гатовы быў сьмерць ад молі прыняць, бо ня мог перажыць сораму за свае прымітыўныя далікаты. А сёньня прачхнуўся, буркнуў-вуркнуў і па здаровым роздуме сьцяміў што ежы нямашака. Запатрабаваў яшчэ раз – тое самае. Абрус-самабор з куфару выцягнуў, пыл абтрос – пуста, хоць ты сам заместа той молі ўгрызайся. Пачаў тады страўнік да глуздоў прыслухоўвацца. А тыя яму наўсьцяж невядомыя ды конча незразумелыя рэчы апавядаюць і такімі, паскуды, словамі сыпляць, што цягліцы зводзіць і сок жоўцяй наліваецца. "Замуціўся розум ад голаду, " – падумаў страўнік, але да канца даслухаў. Тое ці ня тое зразумеў – ня ведаю, але мне во як пераказаў:

– Зьмянілася, – кажа, – улада ў Княстве. Вялікі, – кажа, – цар кіруе цяпер краінай. Ну, можа, – кажа, – не такі ўжо й вялікі, але краіна, – кажа, – твая. І ўсё, што ёсьць цяпер у тваёй краіне сапраўды вялікага, дык гэта кошты. Праз гэтыя кошты кішэні спустошыліся й вісяць цяпер на схуднелых постацях як жабрачыя торбы... Затое ў крамах якой заўгодна ежы поўна. Ляжыць, псуецца...

Задумаўся я, – кажа страўнік – і вымысьліў клікнуць народ на вуліцу. Клікнуў. Выйшлі. Нават некаторыя сытыя, народ-жа той самы, побач з галоднымі сталі. А супроць іх цівуны, ды прысербкі царскія, ды ўніхвормікі розныя з дручкамі ды тарчамі. Адну гэткую тарчу лусьцікамі запоўні – увесь народ накорміш. Прыгледзіўся я – кажа страўнік – і бачу, што дручкі ва ўніхвормікаў спрэс каўбасныя, маўляў, салямі-сэрвіляты розныя, па складох на вашчацоў ссохлыя, у справу пайшлі.

Ну, сутыкнуліся. Народ нават колькі дручкоў адбіў ва ўніхвормікаў. Кроў з твару абцёр, дзяцей накарміў, а далей што? Выйшаў другі раз. Ізноў удала. Ня так як першым разам, але й не на пуста. У трэйці пачаў змагацца, а ўніхвормікі ўжо самі толькі гумовымі дручкамі атакуюць ды агрызаюцца. Гэтымі-ж дзяцей не накорміш...



Малюнак Юрася МІХЕДА

Зьбіты, скрываўлены, збольшага зломлены, вярнуўся народ у сялібы. Пабедаваў-пабедаваў дый пачаў да іншага жыцьця рыхтавацца: возьме адну адзежыну – на дзьве пераробіць, адпаведна й бульбіну на палову (каб на сёньня й заўтара хапіла), а хто даўмеўся на тры часткі – адну на продаж – да дзьвюх першых солі купіць. Сёй-той прыпомніў рыбу вудзіць, сёй-той – ракаў лавіць, іншы ў грыбы й ягады ды ўсе на грады. І нічога з таго дадаткам. Усё галоўнай ежай на стол клалася. Карацей, пачалі сяк-так жыць і толькі страўнік памятаў розьніцу. Цяпер ужо ён пачаў глуздам нашэптваць. Шаптаў, шаптаў і дашаптаўся.

– На вуліцу мы больш ня пойдзем – адказалі яму па глыбокім роздуме глузды. Каму трэба намарна пад гумовыя дручкі падстаўляцца? Але ўвосень, як на сотках ураджаі зьбярэм, наагул з хатаў выходзіць перастанем.

Ну, як кажуць, адшаптала дажджамі ды адшамацела апалым лісьцём залатая пара. Прачхнуўся цар раніцай, глянуў у вакно а на вуліцы ні душы. Толькі белая замець аспальтавымі пляцамі сьцеліцца ды вецер гудзе. А так – ціша. Выйшаў цар на гаўбец у адных сподніках, соладка пацягнуўся й прыгадваючы сваю бабулю (чорную чараўніцу) сказаў па складох нешта магічнае з вуу-дуу:

– Эх! Ста-біль-носьць! Эх! Хо-ро-шо! – І павярнуўшыся да першага міністра запусьціў у яго магічным заклёнам: Э-лек-то-рат-где!

Заклён падзейнічаў. Міністар увачавідкі памізарнеў, але паспрабаваў нясьмела адбіцца мясцовай магіяй:

– Па хатах, – і для пэўнасьці зусім ужо спалохана дадаў з вуу-дуу: Блажэн-ству-ет!

– Войны-не-ве-дзём? – Пералучыў увагу на міністра абароны цар.

– Не-а, – адказаў той нечым з даўна забытых хутаранскіх чарасловаў, – дзякць-бог.

Разьвязаўшы дзяржаўныя справы цар перайшоў на дзяржаўныя стравы й са зьдзівам даведаўся, што народ нічога ня хоча, што ў народа ўсё ёсьць, што прадуктамі ён узброены, гарэлачкай-самагоначкай упіты, панчошкамі для грошыкаў забясьпечаны ды, як кажуць (ізноў з вуу-дуу): ці-лі-ві-зар-смот-рыт.

Усьцешыўся цар, а потым узяў ды й пакрыўдзіўся. Я, маўляў, тут высільваюся, кірую, а ў іх усё ёсьць, брунэй-кувэйт! Яны, брунэй-кувэйт, усім шчасныя!

– Ня ўсім, – міжволі прачытаўшы царовы думкі сказаў сабе пад нос нябачны ачольнік міністэрства сакрэтных справаў, аббрэвіятураны ў вуу-дуу слоўкам ка-го-біть, – аратыя нудзяцца.

– Эка номіка! Саху-ім! – Адказаў цар.

– Ужопадавалі небяруць, – нясьмела ўтачыўся ў размову міністар экай номікі.

– Як не бяруць, – забыўшыся на вуу-дуу спаскудзіўся па-тутэйшаму самадзержац, – ану ўсіх на вуліцу!

– Ужопарадзілі няйдуць!

– А чым занятае міністэрства гвалту! – Разануў цар-бацюшка.

– Народ на самагвалт перайшоў, – адказаў адпаведны міністар.

– Лібэрум-вэта! – Вякнуў цар ужо гадоў з трыста як забароненую тутэйшую магічную хвормулу. – Лібэрум-вэта, брунэй-кувэйт! Чым яны там па хатах займаюцца? Якія змовы-замовы плятуць? Выгнаць усіх на вуліцу, мы-ша-ў-за-кар-ма ім! Шоб-все-на-вуу-дуу... цьху ты... на-віду-былі!

Кінуліся прысербкі спаўняць. Пасунуўся люд на вуліцы. А там іх уніхвормікі з тымі самымі дручкамі неядомымі сустрэлі. І зусім невядома чымбы ўсё скончылася, калі-б не глузды са страўнікам. Сьцямілі адны й другія, што ня іхны час цяперака, вох ня іхны. Нешта больш магутнае чым абыдзённыя думкі й мяшчанскі стол завалодала сьветам. Нешта такое прыйшло ў яго, што страваваньнем глуздоў ды абглуздаваньнем страўніку ахапіць ня можна а й ня трэба. І што яно было – ніхто ня ведае, але кожны з натуры чалавечае адчувае, бо нараджаецца з тым, ды жыцьцё яго почасту зіначвае. Нехта называе гэта воляй, нехта прыродай. Нехта Боскім прасьвятленьнем, душой, сэрцам ды прасьвядай. Але насамрэч – гэта й тое й другое й шмат што іншае...

Узяліся за рукі выгнаныя на вуліцу. Разам. Цар цоп-цоп – няма кароны. Толькі плех. Дрыгнулі дручкі ў руках уніхвормікаў. Адзін народ. Адна нацыя. Кінуліся цівуны й прысербкі хавацца ды й затыглі пачварамі на абшарах Бацькаўшчыны.

А людзі ўшанавалі памяць вартых, Вялікіх Князёў згадалі ды кожны да сваёй працы вярнуўся вольным і сапраўды шчасным. І калі недзе ў лесе надарыцца табе ўбачыць стары заімшэлы пень ці струхлелае ды гнілое карчавіньне, прыгледзься й пазнай у ім і цара і ягоных міністраў.

Ты можаш пахаваць іх закідаўшы хлудам ды ламаччам, засыпаўшы зямлёй, абклаўшы дзірваном. Ты можаш штурхануць іх, каб пабачыць як яны стануцца пылам. Урэшце, ты можаш распусьціць цяпельца, каб спаліць нелюдзяў, якія былі такімі й у людзкім абліччы. Але, найлепш, пакінь іх як ёсьць, бо гэта – твая краіна.

***28 лютага – 4 сакавіка 2005 г.***
***Мангасэт***

* * *

Ані не актуальна для сучаснасьці
Лямантаваць, што Родзіна ў
апаснасьці,
Але надзённа (тут няма дзе дзецца)
Усьведамляць: Радзіма ў небясьпецы.

***3 сакавіка 2005 г. Мангасэт***

 



# Лісты ў рэдакцыю

## Зашчапляць патрыятызм, ствараць маладыя кадры

У Беларусі праводзіцца абрасейваньне беларусаў у прысьпешаным тэмпе. Амаль усе сродкі масавай інфармацыі знаходзяцца пад дзяржаўным кантролем, таму нам, беларусам, трэба ўжыць усе сілы, каб гэты працэс прыніць.

Фальшаваньне гісторыі Беларусі ў школах пры дапамозе падручнікаў навучае расейшчыне, таму нам неабходна супрацьставіць гэтаму сапраўды беларускае патрыятычнае выхаваньне. Калі палякі былі пад камуністычным рэжымам, дык мусілі прыхавана наладжваць нацыянальна-патрыятычнае навучаньне, карыстаючыся адмыслова прыгатаванымі скрыптамі-лекцыямі (так званымі лятаючымі школамі). Мы таксама павінны застасоўваць сапраўдную беларусаведу і грамадзка-палітычную арганізаванасьць, што будзе спрыяць народнай салідарнасьці.

Знаныя польскія палітычныя наглядальнікі – Эва Фігэль, Якуб Баратынскі й Войцэх Бародзіч-Смалінскі дыскутавалі паміж сабой, ці рэвалюцыя руж можа адбыцца ў Беларусі. В. Бародзіч-Смалінскі сьцьвярджае, што беларуская апазыцыя ня мае сеткі СМІ, незалежныя масавыя сродкі вельмі абмежаваныя, малатыражныя і ня ў стане ўплываць на грамадзтва. Амэрыка, кажа Я. Баратынскі, выдзяліла 40 мільёнаў даляраў на падтрымку беларускай апазыцыі, але іх трэба разумна выдаткоўваць. Адукаваныя людзі замест таго, каб палітычна выхоўваць і фармаваць кадры, ангажоўвацца ў разьвіцьцё палітычнай асьветы – працуюць перакладчыкамі, сакратарамі альбо старшынямі ў розных арганізацыях.

Э. Фігель ёсьць за тое, каб падтрымліваць тыя ініцыятывы, якія ўзьнімаюць маладыя. Цяпер пачынае дзейнічаць маладое пакаленьне, якое натуральным чынам думае інакш. Трэба падтрымліваць працэсы самаадукацыі, асьветніцкую дзейнасьць. Я. Баратынскі ўважае, што мірны вынік пераменаў ва Ўкраіне будзе важнейшым для Беларусі, чым тое, што Польшча зробіць ці ня зробіць.

Дыскусія гэтая адбывалася перад "аранжавай" рэвалюцыяй ва Ўкраіне.

***Арм***

## Юзэф Пілсудзкі ў Менску

У 2000 годзе ў Лёндане, Англія, выйшла вельмі цікавая кніга на польскай мове пад назваю "Zaplecze i Mlodosi". Аўтар кнігі З. С. Сямашка ёсьць родам з Дунілавіч каля Паставаў. Мэтаю гэтага ліст ня ёсьць рэцэнзаваньне гэтай кнігі, а толькі хачу затрымацца на адным аспэкце, прабываньні 19.IX.1919 г. у Менску Юзэфа Пілсудзкага.

Сп. Сямашка цытуе ўрывак з кнігі нейкага Рдултоўскага, дзе ёсьць апісаньне спатканьня Ю. Пілсудзкага зь мясцовым беларускім актывам. Вось што піша Рдултоўскі: "Кульмінацыйны момант наступіў, калі пачаў гаварыць прадстаўнік беларускіх нацыяналістаў. Гаварыў ён па-беларуску, высоўваючы сьмелыя нацыянальныя вымаганьні. Пілсудзкі меў гатовы адказ. Сказаў ён даўжэзную палітычную прамову на добрай беларускай мове. Абяцаў шырокую свабоду разьвіцьця беларускай нацыянальнай культуры, гаварыў аб аўтаноміі й дамагаўся вернасьці й ляяльнасьці да Рэчы Паспалітай.

Для многіх сярод нас палякаў, ня ведаючы палітычных праектаў Пілсудзкага, абедзьве палітычныя прамовы зрабілі дзіўнае і трывожнае ўражаньне. Ужо сам факт, што прамовы былі сказаныя не па-польску, зрабіла для польскіх вушэй нейкую прыкрасьць. Мы столькі гадоў чакалі тут на Польшчу, а калі яна прыйшла, то Галава Дзяржавы прамаўляе да людзей, якія дасканала ведаюць польскую мову, па-беларуску."

Дык бачыце, сп. Рдултоўскаму не падабалася, што беларусы й Ю. Пілсудзкі прамаўлялі па-беларуску. Таму ня трэба дзівіцца, што людзі кшталту Рдултоўскага, якія дарваліся да ўлады ў 1921-1939 гадох у Польшчы душыць усё беларускае паланізацыяй, акаталічваньнем, закрыцьцём беларускіх школаў, адбіраньнем праваслаўных цэркваў і т. п.

Нешта падобнае адбывалася па вайне і адбываецца на Беласточчыне.

***Міхась ШВЭДЗЮК, Англія***

## Пра "вольную" краіну, дзе адсутнічаюць дыскусіі

У нумары 7-8 (ад 24 лютага 2005 году) газэты Голас Радзімы зьявіўся артыкул "Няўжо наступнай будзе Беларусь?" украінскага беларуса Пятруся Капчыка, які зьяўляецца сябрам Вялікай Рады арганізацыі "Бацькаўшчына".



Пісьмо з Украіны

Няўжо наступнай будзе Беларусь?

Думаю, што чытачы "Голасу Радзімы" ва ўсіх 52 краінах свету ведаюць, што за "рэвалюцыя" адбывалася на працягу двух месяцаў ва Украіне і колькі мільёнаў долараў на яе правядзенне выдзеліў Вашынгтон аднаму з кандыдатаў, які ў рэшце рэшт з 23 студзеня стаў прэзідэнтам. Спадар Юшчанка адразу ж падтрымаў дзяржаўнага сакратара ЗША Кандалізу Райс, якая "закляйміла" 6 дзяржаў свету як "фарпосты тыраніі", а менавіта Іран, Бірму, Кубу, Паўночную Карэю, Зімбабве і ... Беларусь. Ва "Українськоі правді" 25 студзеня 2005 года было змешчана наступнае яго выказванне: "Беларусь пры існуючай уладзе сур'ёзна ўскладняе перспектыву адносін" (так ён гаварыў на прэс-канферэнцыі ў Радзе Еўропы ў Страсбургу. На ёй жа ён сказаў, што быў "шчаслівы, што на Майдане бачыў беларускі сцяг (праўда, не цяперашні дзяржаўны, а былы бел-чырвона-белы)". Спадар Юшчанка ...

Спадар Капчык у сваім артыкуле, які падмацаваны фотаздымкам амэрыканскага вайскоўца з накіраванай у бок чытача зброяй (цікава, дзе гэта знайшлі такі здымак?), вінаваціць прадстаўнікоў адміністрацыі ЗША у тым, што яны практычна аплацілі выбары прэзыдэнта Ўкраіны сп. Юшчанкі (праўда, не паведамляе, хто-ж плаціў тым, хто хадзіў па вуліцах), нападае на сакратара ЗША Кандалізу Райс за тое, што яна назвала Беларусь фарпостам тыраніі, піша, што ён жыве ў становішчы страху і вельмі прыкрых пачуцьцяў (ён дадае - хто дазволіў кляйміць нашу Беларусь?), ды ў дадатак вінаваціць рэдактара ГР спадарыню Натальлю Салук за адсутнасьць на старонках газэты дыскусій па набалелых пытаньнях. Хоць спадар Капчык успрымае Аляксандра Лукашэнку па-рознаму па нейкі вядомых адным нам прычынам, але тым ня менш заяўляе чытачу (выступаючы тут ад імя амаль усёй іміграцыі) аб тым, што Беларусь зьяўляецца сёньня "вольнай і незалежнай" краінай.

Зацікавіўшыся гэтай заявай (бо антыамэрыканізм не зьяўляецца нечым новым у постсавецкай прэсе), я запытаўся ў свайго знаёмага аўстралійскага студэнта апошняга курсу юрыдычнага факультэту гораду Адэляйды наступнае пытаньне: ці можна суцэльна зьвязаць у адну лягічную адзінку заяву асобы аб так званай вольнай краіне, у якой урадавая газэта аднак ня мае права друкаваць дыскусійныя артыкулы для сваіх чытачоў, асабліва, калі гэтыя артыкулы займаюць антыўрадавую пазыцыю. Студэнт той падумаў трохі й адказаў мне, што ў гэтай сітуацыі існуе неадпаведнасьць, бо ў вольнай і незалежнай краіне, напрыклад такой як Аўстралія, сродкі інфармацыі лічаць за адну з галоўных мэтаў разгортаваць на сваіх медыястаронках дыскусіі аб сацыяльных праблемах краіны, што ў выніку вядзе да фармаваньня неабходных ведаў у будучых выбаршчыкаў. Калі-ж такая газэта, як ГР ня мае (як сьцьвярджае сп. Капчык) дыскусійных артыкулаў на сваіх старонках, то гэта толькі выяўляе факт існаваньня ў краіне рэжыму, які вельмі далёка стаіць ад дэмакратычнага ўсталяваньня. Да чаго можна дадаць і наступнае: як беларускі чытач зможа аддаць свой голас за праўдзівага кандыдата на пасаду прэзыдэнта, калі апазыцыйна думаючаму чытачу (групе, асацыяцыі, апазыцыі й г. д.) не дазваляецца карыстацца мэдыямі?

Ад чаго можна перайсьці да наступнага: калі ў краіне існуюць праблемы з дыскусіямі, то аб якой "вольнай і незалежнай" дзяржаве можа ісьці размова, спадар Капчык?

***Віктар КАВАЛЕЎСКІ, Аўстралія***

## Антыбеларуская выхадка

Ці можна ўявіць, каб, да прыкладу, амэрыканская газэта, хай сабе і "жоўтая", напісала: "...эсэсаўскія аддзелы актыўна мачылі зорна-паласатых..."? Пытаньне рытарычнае. Немагчыма. Прычым, ня толькі ў ЗША. У любой краіне немагчымая публічная зьнявага, з ужываньнем крымінальнай лексікі ў дачыненьні да змагароў за свабоду і незалежнасьць сваёй айчыны. Нават "жоўтая прэса" не пераступае праз пэўныя межы.

18 лютага сёлета ў "беларускай газэце" "Наша ніва" у матар'яле Алега Новікава (друкуецца пад псэўдонімам Лёлік Ушкін) чытаем: "Я добра стаўлюся да РСЧА, але мне не падабаецца, што чырвоныя беларусы актыўна мачылі бел-чырвона-белых беларусаў – слуцкіх інсургентаў ці "балахоўцаў".

Пакінем у баку тое, што сп. Новікаву "не падабаецца", як і ўяўнае няведаньне гісторыі – як вядома, супраць слуцкіх паўстанцаў ніякія "чырвоныя беларусы" не ваявалі, такіх і ў прыродзе на той час не існавала, бальшавіцкі пераварот у нас рабілі чужаніцы. Супраць беларускіх паўстанцаў расейскія акупанты кінулі сібірскія аддзелы, укамплектаваныя ў пераважнасьці кітайцамі. Аўтар матар'ялу дапусьціў зьняважлівы выпад ў бок герояў-беларусаў і беларускага нацыянальнага сьцягу. За такое могуць абарваць ня толькі вушы.

Але справа ня толькі ў вушах Л. Ушкіна. Становіцца ўсё больш відавочна, чаму антыбеларускі рэжым, задушыўшы значна больш ляяльныя да яго расейскамоўныя выданьні, дазваляе існаваць нібыта беларускай, нібыта апазыцыйнай газэце пад гістарычнай назвай "Наша Ніва". Беларусы чытаюць на старонках "НН" такіх вось лёлікаў, у якіх публіцыстычны талент нават не начаваў, і разумеюць, што гэта ўжо даўно – не наша, а "Іхная Ніва" – газэтка салёных самазамілаваных асобаў, якія пасьлядоўна вядуць антыбеларускую справу пад брудным сьцягам блюзьнерства.

Газэта "Наша Ніва", якая рэпрэзэнтуе сябе як "Першая беларуская газэта" у сваім нумары ад 25 лютага 2005 года прысьвяціла былому рэктару БДУ, антыбеларусу Аляксандру Казуліну амаль пяць палосаў! Сярод матар'ялаў розных публіцыстычных жанраў друкуюцца ўспаміны "студэнтаў і выкладчыкаў БДУ, якія пацярпелі пры Казуліну".

Уразіла меркаваньне адлічанага з факультэту міжнародных адносінаў, як сьцьвярджаецца у матар'яле, "за няздачу заліку па мэдычнай падрыхтоўцы" у 1997 годзе Сяргея Марцалева: "Што да Казуліна як кандыдата дэмакратычнай апазыцыі, у якасьці палітыка ён досыць пэрспэктыўная фігура і можа стаць цэмэнтуючым зьвяном, якога не ставала.

Казулін сапраўды ў пэўнай ступені нясе адказнасьць за палітыку, што праводзілася ва ўнівэрсытэце. Але ён як чыноўнік мусіў ажыцьцяўляць лінію дзяржавы. Ён-жа мог паводзіць сябе і больш жорстка."

Спадар Марцалеў, мяркуючы па кантэксту, чалавек малады, дзяцінства і юнацтва ягоныя, пэўна, не супалі з эпохаю "разьвітога сацыялізму". Таму даравальна магчымае няведаньне ім фальклёру тае пары, які быў нармальнай, здаровай рэакцыяй на маразматычную прапаганду расейска-савецкага рэжыму. Мяне-ж гэтая эпоха зачапіла, то я падзялюся показкаю з майго дзяцінства:

Да піянэраў у школу прыходзіць дзядуля, які бачыў Леніна (які, як вядома было ўсім дзеткам Краіны Саветаў, быў самым чалавечным чалавекам і толькі й рабіў, што гладзіў дзетак па галоўках ды частаваў іх цукеркамі).

–Дзядуля, раскажы як ты бачыў Леніна, просяць піянэры.

– Меў я гадкоў столькі колькі й вы, – кажа дзядуля,

–Бяжым мы па парку і бачым — на лаўцы сядзіць Ленін.

– Дзядуля Ленін, дай цукерку, – просім мы.

– А пайшлі-б вы ... , – кажа Ленін

– Што, так і сказаў? – зьдзіўляюцца піянэры

– А мог-жа і шабляй секануць! – кажа дзядуля.

Быў час, зусім нядаўна, калі шмат казалася і пісалася пра тое, як важна нам, былым савецкім людзям, пазбаўляцца саўковасьці, "выціскаць зь сябе раба", гэта значыць пазбаўляцца рабскай псыхалёгіі, выпростваць плечы, станавіцца свабоднымі людзьмі, не баяцца называць белае – белым, чорнае – чорным, нягоднікаў – нягоднікамі. Але праз чатырнаццаць гадоў пасьля распаду савецкай імпэрыі, як бачым, саўковасьць, рабская мэнтальнасьць знаходзіць прытулак нават сярод людзей маладых і тых, што лічаць сябе дэмакратамі.

***Юры БЕЛЕНЬКІ***

 

# Права на сьмеласьць

(эсэ)

Здарылася так, што некалькі гадоў запар я нічога ня ведаў пра тое, што робіцца ў паэзіі. Выпадкова злоўленыя ў паветры імёны, выпадкова набытыя кніжкі, неспадзяваныя зацікаўленьні, раптоўныя прыемнасьці ў выглядзе візытаў таленавітага Максa, чые вершы гадзінамі маглі-б гучаць у радыёэтэры побач зь непаўторным дзядзькам Рыгорам і зрэдчас прысутнымі на хвалях ягонымі маладзейшымі паплечнікамі па пяру.

У нашай рэальнасьці этэр мусіць належыць пераважна сьмелым. "Не время теперь любить, Маша," – казаў нейкі расейскі літаратура- ці кінагэрой, што ў Беларускім эквіваленце гучыць даўна знаёмым: "У нас сэксу няма". Дарэчы, на Захадзе, дзе і "любить время" і сэкс ёсьць некаторыя радыёстанцыі досыць часта даюць дарогу рымаванаму слову, хаця сярод маіх знаёмых папулярнасьцю карыстаюцца пераважна музычные хвалі... Зрэшты, песенныя тэксты – не такая ўжо й далёкая радня вершаў.

Але вернемся да свайго... Адзін стары беларускі эмігрант сказаў мне аднойчы: "Ведаеш, у савецкія часы ў нас тут з крытыкаю было ўсё вельмі добра. Лёгка было быць сьмелым. Лёгка было быць праўдзівым, ня тое, што вам". І вось часы зьмяніліся. Імпэрыя зла абрынулася як трухлявая хаціна. Адзін за адным народы пачалі набываць права на сьмеласьць. Выявілася, што ня толькі самотнікі-дысыдэнты, а й былыя чырвоныя лідары розных узроўняў праз увесь гэты час у душы былі адважнымі й праўдзівымі. Выявілася, што дзесяцігодзьдзямі хаваная ад народу праўда нікуды ня дзелася. Яна *толькі чакала* свайго часу ў спэцхранах і сэйфах, у нэтрах зьнямелых ад страху глуздоў абазнаных, у памяці раптоўна відушчых, для якіх, яшчэ ўчора горача любімая партыя, сёньня конча збрыдзіла, бо прагніла. О, гэта быў незабыўны час! Ледзь ня кожнага дня я з радасьцю адзначаў, што людзі ня толькі ўмеюць, але й маюць што сказаць, што людзі ўмеюць ня *толькі слухаць*, а й чуць. І хто-б мог тады падумаць, што неўзабаве лёс закладзе яшчэ адзін круты віраж для маёй краіны. Хто-б мог падумаць, што ад народу яшчэ раз запатрабуецца йзноў забароненая сьмеласьць. Хто-б мог падумаць, што сьмеласьць гэтая спатрэбіцца ня толькі ад тых, хто застаўся на Бацькаўшчыне, але й ад тых, хто з розных прычынаў апынуўся на заходніх абшарах дазволенай сьмеласьці.

Справядліва запоўніўся этэр змагарнымі вершамі Славаміра, бунтоўнымі песьнямі Андрэя й сьмелымі рымамі зґаданага дзядзькі Рыгора, побач зь якім, але ўжо з заходу, гучэў голас празаіка, які не любіў паэзію, але заўсёды быў большым паэтам свайго народу чымся шматлікія афіцыйна прызнаныя майстры вершаванага слова. Празаік-прарок не хаваўся на сьмелым Захадзе. Былому франтавіку не было патрэбы баяцца, як не баяўся ён у змаг горшыя часы бальшавізму.

Сапраўдны паэта можа загінуць дзе заўгодна, але памерці – толькі на Радзіме. Гэтае правіла мае выняткі, але наўрад ці вінаватыя ў тым самі паэты.

Дзед Васіль, як называлі яго мае сыны, *адыйшоў на Бацькаўшчыне*. Хацеў быў напісаць: адыйшоў у лепшы сьвет, але засумняваўся, згадаўшы словы раней памерлага клясыка й сябры нябожчыка: "Край мой! Родная мая зямля! Як жа мне жыць, калі я пайду з цябе? Як мне быць, калі я памру, і, можа, быццё маё яшчэ некаторы час не скончыцца – гэта й ёсьць абяцанае мне пекла? Без цябе". А яшчэ падумалася, што й краіны з правам на сьмеласьць наўрад ці лепшы сьвет, чымся свой.

Жыцьцё дзеда Васіля, ягоныя сьмерць, пахаваньне й памяць пра яго яшчэ раз пацьвердзілі нашае права на сьмеласьць. У голас памяці ўліліся сотні галасоў знаных і мільёны нязнаных прыхільнікаў таленту, якія ўзвысілі свайго куміра (яшчэ пры жыцьці) годнасьцю "сумленьня нацыі". Сярод усіх гэтых галасоў адным зь першых прагучэў голас зьвінавачанага ў тэрарызме паэта-выгнаньніка, які неўзабаве сам стаўся ахвярай маскоўскага тэрору.

Амаль адразу твор зьявіўся на інтэрнэт-старонцы Радыё "Свабода". Публікацыя мела наступны выгляд:

**Зелямха Яндарбі напісаў верш на сьмерць Быкава.**

*Вядомы чачэнскі грамадзкі дзеяч і паэт Зелямха Яндарбі напісаў верш "Сумленьне. На сьмерць Васіля Быкава" адразу, калі даведаўся пра беларускае гора, 23 чэрвеня.*

Не наступаў я на горла песьні сваёй,
Тым болей – чужой,
Бо ведаў, што немагчыма
Гэткае зьдзейсьніць сіле любой
Ні горлам луджоным,
Ні вызьверанымі вачыма,
Ні фараонам розных масьцей,
Ні ў старажытным Эгіпце,
Ні ў Рыме першым, другім,
Ні ў трэцім.
Ні ў прастольным Крамлі,
Што шырыцца любіць хутчэй,
Ні ў хмарачосістым Вашынгтоне,
Што езьдзіць у залатой карэце.
Ні цяпер,
Ні ў наступным,
Ані ў мінулым,
І калі нават сьвет увесь закрычыць,
Захлынуўшыя ўласным гулам,
Я ніколі ня верыў,
Што музы могуць маўчаць,
Калі
Прамаўляюць тамагаўкі
Альбо гарматы.
І калі нават атамны сьмерч
Спрабаваў стрэсьці мозг зямлі,
Сумленьне й толькі сумленьне
Ратавала Сусьвет ад страты.
Я ведаў,
Што велічы на зямлі
Няма ніякой.
Ёсьць Людзтва
І вышэй за Людзтва
Няма нічога.
Я зноў пераканаўся ў гэтым,
Калі Вечнасьць забрала з сабой
Чалавека,
Ў каго сумленьне,
Як дар нятленны
Ад Бога.

*З чачэнскае мовы пераклаў Рыгор Барадулін*

Але, выглядае, што "Свабода" мае ня шмат супольнага з правам на сьмеласьць. Літаральна праз дзень верш быў зьняты. Вядома, радыё мае сваю палітыку. Вядома, публікацыю можна было назваць прапагандай тэрарызму, як вершы Багушэвіча прапагандай зьнішчэньня законнай улады, вершы Байрана прапагандай распусты, а вершы Вийёна прапагандай крымінальшчыны.

"Ах кампрамісы, кампрамісы – і рукі выпускаюць сьцяг"... Аўтар забароны меў выбар паміж двума крокамі сьмеласьці. Ён мог абараніць твор, але, напэўна, вырашыў сьмела ня думаць пра тое. Гэта-ж усяго толькі верш, вершык, рымаваныя радочкі, лічылачка. Таму ён адважыўся на іншую сьмеласьць: выдраць аркуш з кнігі памяці клясыка.

А можа быць пададзены верш мог пасеяць сумненьні адносна тэрарызму ягонага аўтара, што будзе супярэчыць афіцыйна прынятаму пункту? А можа быць ужо надыйшоў час, калі папярэднюю фразу трэба было-б спыніць на слове "супярэчыць", і закончыць таямніча ды красамоўна ўзьнятым у гару пальцам? А можа быць ужо варта прытрымаць (не, не – не спыняць, а менавіта прытрымаць) праўдзівасьць, каб потым, дачакаўшыся новага права на сьмеласьць, адкрыта й шчыра, гледзячы ў вочы каму заўгодна, чарговы раз прызнаць свае памылкі? Што-ж, гэта мы ўмеем.

**Сяржук СОКАЛАЎ-ВОЮШ**

***31 сакавіка 2005 г. Мангасэт***

**26 красавіка 2005 году каля штаб-кватэры ААН на Першай Авэню й 43-й вуліцы на Мангэтане, у Нью Ёрку, адбудзецца мітынг у памяць 19-й гадавіны Чарнобыльскай аварыі й супраць рэжыму Лукашэнкі. Пачатак а 4:00 папаўдні.**

*Працую над даведнікам пра выбітных ураджэнцаў Смаргоншчыны. У сувязі з гэтым шукаю доктара хіміі зь вёскі Трылесіна Смаргонскага раёну Валеру Марцішонка, які, па маіх зьвестках, жыве ў горадзе Сан-Францыска.*
*Пішыце на адрас: Віктар ШОЦЬ,*
*вул. Гагарына, 8 кв. 39, г. Смаргонь, 231000, Беларусь;*
*E-mail адрас: svetlly_shliah@tut.by*

**Шчыра дзякуем усім арганізацыям і асобам, якія даслалі ў рэдакцыю свае віншаваньні з нагоды 25 Сакавіка.**

**Спачуваем сп. Юры ЛАПІЦКАМУ з нагоды сьмерці бацькі.**

**З нагоды нечаканай сьмерці с.п. Янкі АЗАРКІ выказваем глыбокія спачуваньні родным і блізкім памерлага.**

НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД ГАЗЭТЫ "БЕЛАРУС" АХВЯРАВАЛІ:

| | |
|---|---|
| Ю. і Л. Кіпель | 200 |
| К. Романо | 150 |
| М. Грынчук | 50 |
| Л. Літаровіч | 50 |
| Б. Паўк | 50 |
| М. Сенька | 50 |
| У. Сітнік | 50 |
| А. Шукелойць | 50 |
| Ж. Дубяга | 40 |
| А. Міцкевіч | 40 |
| С. Белашапка | 30 |
| Ю. Богуш | 30 |
| Д. Валадкевіч | 30 |
| А. Вусьцін | 30 |
| С. Дарагакупец | 30 |
| В. Зайка | 30 |
| В. Каваленка | 30 |
| В. Кулашчык | 30 |
| Г. Кучаравенка | 30 |
| В. Макрак | 30 |
| В. М. | 30 |
| С. Рошчык | 30 |
| С. Саўко | 30 |
| Г. Сырыська | 30 |
| Г. Харавец | 30 |
| А. Цямнова | 30 |
| М. Чупракоў | 30 |
| С. Шабалін | 30 |
| І. Юхнавец | 30 |

**Заміж кветак на магілу Нюры РУСАК:**

| | |
|---|---|
| Н. Рагуля | 50 |

**Усім шчыры дзякуй!**

**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
Выдае штомесячна:
*Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне*
Сусьветнае сеціва: *baza-belarus.org*
Падпіска $30 на год.
Чэкі выпісвайце на BIELARUS
**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
Published monthly by
**Belsrusan American Ass'n, Inc.**
Subscription $30 yearly
Make checks payable to *BIELARUS*
Рэдагуе калегія.
Адказны рэдактар Марат КЛАКОЦКІ
Падпіска Сяргей ТРЫГУБОВІЧ
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.
Перадрук дазваляецца толькі пры ўмове зазначэньня крыніцы.
© BIELARUS, 2004
Адрас для допісаў і кантактаў:
*BIELARUS*
*P.O. Box 3225*
*Farmingdale, NY 11735*
E-mail:
*hazetabielarus@att.net*
Сусьветнае сеціва:
*www.bielarus.org*
ISSN 1054-9455
Адказнасьць за зьмест рэклямы нясе рэклямадаўца.